Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАУ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАУНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР



25 СТУДЗЕНЯ 1930 г.

№ 1 (75) 37

VI-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАУ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1930

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ — АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

25 СТУДЗЕНЯ 1930 г.
№ 1 (75)

VI-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1930 г.

# ЗЬМЕСТ

Выдаецца на падставе пастановы Эканам. Нарады пры СНК БССР за 2/VIII 1929 г.

## 1. Абежнік Камітэту Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### пра правядзеньне тэхнічнага нармаваньня і рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў на будаўніцтве ў 1930 г.

*Усім будуючым і будаўнічым арганізацыям БССР.*

Камітэт Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР прапануе ўсім будуючым і будаўнічым органам, пры якіх маюцца нарміровачна-рацыяналізатарскія органы, пры складаньні праграм іх работ на 1930 г. кіравацца наступным:

I. Праграма работ НРО (нарміровачна-рацыяналізатарскіх органаў) утвараецца на прынцыпе актыўнага ўдзелу як адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу, так і ўсёй рабочай масы будаўніцтва.

II. Нарміровачна-рацыяналізатарская работа ў сваім кірунку, выкананьні і падліку дасягненьняў павінна мець дакладную ўстаноўку тых палепшаньняў (рацыяналізатарскіх дасягненьняў), дабіцца якіх зьяўляецца мэтаю таго альбо іншага рацыяналізатарскага мерапрыемства.

III. Кожны НРО вызначае эканамічны эфэкт, які атрымоўваецца на даным будаўніцтве дзякуючы таму або іншаму рацыяналізатарскаму мерапрыемству.

IV. Рацыяналізатарскім дасягненьнем лічыцца ўсякая зьмена існуючых у даным месцы нармаляў і мэтадаў будаўніцтва, якое дае станоўчы эканамічны эфэкт, які вызначаецца:

а) у падвышэньні вытворчасьці працы;

б) у памяншэньні выдаткаў будаўнічых матарыялаў, асабліва дэфіцытных;

в) у палепшаньні якасьці пабудоў (без падвышэньня іх кошту) і да т. п.;

V. НРО павінны ў сваёй праграме намеціць канкрэтны плян мэханізацыі данага будаўніцтва, прычым павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на ўжываньне найбольш спрошчаных мэханізмаў, якія могуць даць эканамічны эфэкт пры іх эксплёатацыі.

VI. Ужываць усе меры да шырокага ўнядрэньня ў практыку ў надыходзячым будаўнічым сэзоне ты хмерапрыемстваў, якія ўжо зарэкамэндавалі сябе.

З такіх мер рэкамэндуюцца:

А. У галіне мэтадаў і ўмоў работы:

1) Пабудовы будынкаў без карэнных рыштаваньняў і знадворных стрэмянак, вядучы кладку ўнутры (выпускныя рыштаваньні).

2) Кладка на гатовай рашчыне вытвараецца ўсюды са спэцыяльных столікаў.

3) Ужываньне рашчынамяшалак, калі ў адным месцы ўжываецца больш 300 куб. мэтраў рашчыны.

4) Шырокае ўжываньне паўзучай апалубкі пры жалеза-бэтонных работах.

5) Ужываньне аўтагэннай рэзкі жалезных бэляк, а таксама іншых мэханічных спосабаў рэзкі.

6) Перавозка матарыялаў ваганеткамі па рэльсах замест тачак. Дастаўка матарыялаў у вэртыкальным кірунку кранамі і пад'ёмнікамі простае пабудовы, паднімаючы матарыял непасрэдна ў тачках, ваганетках і насілках, усямерна імкнучыся паменшыць гарызантальнае перамяшчэньне будаўнічых матарыялаў.

7) Нагрузку прыбораў перамяшчэньня (тачак, ваганетак і да т. п.) цэмэнтам, пяском, гравіем рабіць глыбокімі (шуфельнымі) лапатамі.

8) Ужываньне афарбовачных апаратаў ручнога тыпу для клеявой і вапнавай афарбоўкі.

9) Пераход будаўніцтва ад паўсаматужнага тыпу да фабрычна-заводзкага (стандартызацыя асноўных тыпаў пабудоў і іх дэталяў, вытварэньне работ бесперапынным працэсам, узгадненьне гатункаў і разьмераў будаўнічых матарыялаў з прынятымі тыпамі пабудоў і стандаратамі дэталяў).

10) Праяўленьне большай прадугледжанасьці ў будаўнічым працэсе ў адносіне наступных работ (напрыклад, пакіданьне розных адтулін для ўцягваньня абсталяваньня і іншых мэт, заўчасная загатоўка матарыялаў і да т. п.).

11) Задоўга да сканчэньня ўжо пачатых работ распачынаць арганізацыю і ўтварэньне наступных работ, напрыклад, яшчэ да сканчэньня земляных работ устанаўляць бэтаньеркі, вышкі для пад'ёмнікаў, распачаць загатоўку жалеза-бэтонных работ і да т. п.

12) Цагельная кладка пры дапамозе шаблонаў і радовак.

13) Арганізацыя бесьперапыннай работы машын, за лік увядзеньня адпачынку рабочых па чарзе.

14) Увядзеньне прамыўкі гравія на месцы яго здабычы.

15) Увядзеньне 2-х і 3-х зьменнай работы (пры наяўнасьці спрыяючых умоў), рацыянальнае разьмяшчэньне матарыялу на работах, раўнамернае разьмеркаваньне работ па месяцох, падоўжаньне будаўнічага сэзону, палепшаньне працоўных навыкаў праз інструктаж, адборку рабочых па кваліфікацыі і да т. п. мерапрыемствы па падвышэньні вытворчасьці працы.

16) Разгрузка інжэнэрна-тэхнічнага пэрсаналу, які знаходзіцца на вытворчасьці, ад адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў.

### Б. У галіне праектаваньня:

1) Бязумоўнае ўжываньне і праектаваньне новых форм і правіл, устаноўленых Камітэтам па Будаўніцтву пры СПА і Камітэтам Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

2) Ужываньне жалеза-бэтонных пустацелых перакрыцьцяў, а таксама жалеза-цагляных перамычак з абручным жалезам на цэмэнтнай рашчыне, устанаўляючы такое ўжываньне кожны раз разрахункам.

3) Ужываньне пры драўляных канструкцыях, замест лаг, насьцілкі падлог па бэльках, пяпярок пакояў ва ўсіх выпадках, калі гэта можа даць эканамічны эфэкт.

4) Шырокае ўжываньне крокваў з дошак і пласьцін.

5) Ужываньне пры вялікіх пралётах састаўных бэляк сыстэмы Лавандоўскага.

6) Сьцены лесьвічных клетак (не апальваемых), якія не нясуць нагрузкі ад перакрыцьцяў, рэкамэндаваць праектаваць палегчанай канструкцыі, напрыклад, па сыстэме Гэрарда, Вутке і інш., альбо ўцяпляць з боку кватэр абшыўкамі і да т. п.

7) Калі паміжсэкцыйныя, разьдзяляючыя кватэры, папярэчныя сьцены, не нясуць нагрузкі і не служаць сувязью паміж фасаднымі сьценамі, то іх належыць праектаваць у выглядзе дзьвёх звычайных драўляных перагародак, якія ня злучаюцца паміж сабой ні агульнай абвязкай і ні водным цьвіком.

8) Частковае скарыстаньне палавінак і трох-чацьвяртушак ня толькі для кладкі сьцен у 2 цэглы, але і для кладкі ў 1 і 1/2 цэглы, пры ўмове дабаўкі да вапнавай рашчыны цэмэнту альбо гідраўлічных дабавак пры захаваньні належнай перавязкі.

9) Замена суцэльных падмуровак паасобнымі слупамі з цэглы, бэтону і бутавага каменю ў адпаведнасьці з умовамі грунту і характарам пабудаваньня.

10) Ужываньне яловых бярвеньняў нароўні з хвоей для знадворных сьцен будынку за выключэньнем двох ніжніх і верхніх вянкоў драўляных зрубаў, а таксама і іншых частак будынку, якія падпадаюць пад беспасрэдную дзейнасьць вільгаці.

11) Рацыяналізацыя мэтадаў правядзеньня статычных разьлікаў: карыстаньне ўсялякага роду табліцамі, графікамі, стандартамі канструкцый і да т. п. дапаможнікамі, акругленьне пралёту бэляк, разьмеру памяшканьня і да т. п.

12) Разьлік апалубкі для бэтонных работ, ужываючы абавязковае праектаваньне апалубкі,скарыстоўваючы дзюймоўку.

В. У галіне тэхнічнага нармаваньня:

1) Вызначэньне мэтаадпаведных норм выдатку будаўнічых матарыялаў наступнымі мэтадамі:

а) практычным—праз нагляданьне на мясцох работ і беспасрэдны падлік у натуры;

б) тэхніка-статыстычным — праз зьбіраньне анкетных даных па скарыстаных работах;

в) вопытна-лябараторным — праз праверку выдатку будаўнічых матарыялаў у лябараторнай абстаноўцы і да т. п..

2) Вызначэньне норм выпрацоўкі рабсілы пры мэханізаваным спосабе вытворчасьці работ, устанаўляючы такія пры дапамозе хронамэтражу.

3). Перагляд норм выпрацоўкі рабсілы ў бок падвышэньня.

4) Актыўны ўддзел у правядзеньні калдагаворнай кампаніі.

VII. Паказаны вышэй пералік рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў зьяўляецца далёка няпоўным; на кожным НРО ляжыць абавязак далейшых вышукаў найбольш мэтазгодных тыпаў і канструкцый будынкаў і яго частак, паасобных прыстасаваньняў, інструмэнтаў, транспартных сродкаў і да т. п., дасьледуючы будаўнічы працэс з усіх бакоў, і ўся гэта работа павінна праходзіць пад знакам рашучай барацьбы з перажыткамі архаічных, руцінных звычаяў, пад знакам сьмелага асваеньня новых мэтадаў і новае тэхнікі.

VIII. У сваёй рабоце НРО павінны шырока скарыстаць як замежны, так і саюзны вопыт у справе рацыяналізацыі будаўніцтва (напрыклад, даныя Саюзнага Інстытуту Пабудаваньняў).

IX. Павінна быць праяўлена дастатковая хуткасьць у абмене рацыяналізатарскімі дасягненьнямі, якія атрыманы паасобнымі арганізацыямі.

Старшыня Камітэту Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

Сакратар *М. Сецко.*

5 студзеня 1930 г.

---

## 2. Інструкцыя Камітэту Будаўніцтва пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### пра праектаваньне будынкаў і пабудоў праектнымі бюро.

Пры выкананьні даручэньняў па праектаваньню будынкаў і пабудоў і прамысловых прадпрыемстваў усе праектныя бюро БССР павінны кіравацца гэтай інструкцыяй.

1. Паводле пастановы СНК БССР за 2 студзеня 1930 г. і пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 2 жніўня 1929 г. аб арганізацыі будаўніцтва па ўсіх галінах народнае гаспадаркі на бліжэйшае пяцігодзьдзе („Савецкая Беларусь“ за 14/VIII-1929 г). арганізаваны 4 асноўных праектных бюро:

а) пры ВСНГ БССР;

б) пры Белжылсаюзе;

в) пры Белкалгасбудзе.

г) павінна быць арганізавана аддзяленьне „Электросельстроя“ паводле пастановы Эканам. Нарады пры СНК БССР за 21 студзеня 1930 г.

2. Для больш прадукцыйнай работы кожнага праектнага бюро сфэры праектных работ павінны быць разьмяжованы па спэцыяльнасьцях наступным чынам:

а) праектнае бюро пры ВСНГ павінна спэцыялізавацца па складаньні праектаў прамысловага і гандлёва-прамысловага характару;

б) праектнае бюро пры Белжылсаюзе павінна быць прыстасавана для распрацоўкі праектаў па будаўніцтву жылішчнаму, ведамсьцьвеннаму (школы, больніцы і інш.), грамадзкіх будынкаў (тэатры, клюбы, музэі, банкі і інш.) і санітарна-тэхнічнаму ў гарадох (вадаправоды, каналізацыя і інш.);

в) праектнае бюро пры Белкалгасбудзе павінна абхапіць праектныя работы па будаўніцтву калгасаў, саўгасаў, аграпунктаў, вэтэрынарных лячэбніц, сельска-гаспадарчай індустрыялізацыі, сельскіх санітарна-тэхнічных пабудоў і інш.

г) аддзяленьне „Электросельстроя“ павінна выконваць працу па праектаваньню аб'ектаў сельскагаспадарчай электрыфікацыі.

Увага. Праекты будынкаў і пабудоў, не падыходзячых пад вышэй паказаныя катэгорыі, могуць выконвацца любым з пералічаных бюро.

3. У круг дзейнасьці праектных бюро ўваходзіць:

а) складаньне ў межах сваёй кампэтэнцыі (п. 2) праектаў новых прамысловых прадпрыемстваў, будынкаў і спэцыяльных работ, а таксама буйных капітальных рамонтаў, пераабсталяваньняў і рэканструкцый існуючых будынкаў і прамысловых прадпрыемстваў, разьлікаў

моцнасьці і ўстойлівасьці пабудоў, рабочых рысункаў, каштарысаў, паясьняльных запісак і г. д.;

б) праверка паказаных у літ. „а“ праектаў каштарысаў і інш. дакумэнтаў тэхнічнага характару;

в) дача рознага роду кансультацый і экспэртыз па тэхніка-будаўнічых і юрыдычных пытаньнях, у тым ліку і перадаваемых у парадку даручэньня акруговым кіраўніцтвам будаўнічага кантролю;

г) выкананьне эканамічных і тэхнічных (геадэзычных, геалёгічных, гідрамэтрычных і інш.) вышукаў, дасьледваньняў і здымкаў, зьвязаных з складаньнем праектаў;

д) скліканьне нарад па пытаньнях, зьвязаных з праектаваньнем пабудоў;

> Увага. Ад праектаваньня асабліва складаных пабудоў і прадпрыемстваў або спэцыяльных работ, патрабуючых кампэтэнцыі асобных спэцыялістых, праектныя бюро, якія ня маюць такіх спэцыялістых у сваім складзе, могуць адмовіцца, накіроўваючы заказчыкаў у цэнтральныя агульна-саюзныя спэцыяльныя праектныя бюро.

4. Праектныя бюро вытвараюць свае работы па таксах, якія зацьверджаны ведамствамі, пры якіх арганізаваны праектныя бюро (ВСНГ, Белжылсаюз, Белкалгасбуд і „Электросельстрой“). Нетаксаваныя работы вытвараюцца па цэнах па ўзаемнай згодзе бюро з заказчыкам.

> Увага. Таксы для аплаты работ праектных бюро павінны быць распрацаваны ў межах норм выдаткаў на вышукі і складаньне праектаў, каштарысаў і рабочых рысункаў, устаноўленых пастановаю Камісіі па Будаўніцтву пры СПА аб намэнклятуры выдаткаў па будаўніцтву, парадку іх вылічэньня і падліку і аб гранічных нормах гэтых выдаткаў.

5. Для кіраваньня праектным бюро ведамствы, пры якіх гэтыя бюро арганізоўваюцца, назначаюць кіраўніка і яго намесьніка, калі ў апошнім будзе патрэба, прычым адзін з іх павінен быць абавязкова з вышэйшаю тэхнічнаю адукацыяю і інжынэрна-тэхнічным стажам ня менш 5 год.

6. Праектныя бюро павінны мець штат праектыроўшчыкаў, кваліфікацыя якіх павінна адпавядаць асноўнай рабоце бюро. Колькасны штат вызначаецца магчымасьцю ахопу праектных работ па пяцігадовай праграме будаўніцтва.

> Увага. У неабходных выпадках праектным бюро дазваляецца карыстацца кансультацыяй і дамамогаю інжынэрна-тэхнічных сіл як мясцовых, так і з іншых гарадоў, а таксама арганізацый і ўстаноў.

7. Пры распрацоўцы праектаў праектныя бюро павінны кіравацца інструкцыямі пра парадак зацьверджаньня праектаў прамысловага і непрамысловага будаўніцтва, а таксама ўсімі законамі, дырэктывамі, правіламі, нормамі і інструкцыямі, якія тычацца будаўніцтва, як цэнтральных, так і мясцовых урадавых органаў і спэцыяльна-ведамсьцьвеных. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на:

а) пытаньне зьніжэньня кошту будаўніцтва;

б) ужываньне стандартных частак будынкаў і пабудоў;

в) падлік стандартных разьмераў будаўнічых матарыялаў;

г) замену дэфіцытных матарыялаў недэфіцытнымі;

д) ужываньне простых палегчаных канструкцый і простых знадворных форм;

е) выгадную і магчыма простую пляніроўку будынкаў;

ж) максымальнае скарыстаньне агульнай плошчы пад карысную плошчу і інш.

8. Праектныя бюро павінны своечасова паклапаціцца аб атрыманьні заказаў на праектаваньне з мэтаю магчыма раўнамернага разьмеркаваньня работ на працягу году.

9. Пры заключэньні з работадаўцамі ўмоў на складаньне або распрацоўку праектаў у цэлым ці частцы іх, праектныя бюро павінны паказваць тэрміны сканчэньня заданьняў, улічваючы рэальную магчымасьць выкананьня работ да абумоўленага тэрміну, строгае захаваньне чаго для праектных бюро абавязкова, каб не парушыць пляну будаўніцтва.

10. Копіі складзеных або распрацаваных праектнымі бюро праектаў павінны захоўвацца ў архівах бюро ў такім выглядзе, каб упаўне яскравы быў як канчатковы праект, так і варыянты праекта з усімі дапаможнымі матарыяламі, разьлікамі, зьвесткамі, пратаколамі нарад і інш., скарыстанымі ў працэсе распрацоўкі праекта.

11. Праектныя бюро павінны шырока скарыстаць ужо маючыяся праекты для распрацоўкі новых аднародных па прызначэньню ці маючых пахожыя часткі, канструкцыі і інш., з унясеньнем новых элемэнтаў па рацыяналізацыі, зьніжэньню кошту і замене дэфіцытных матарыялаў недэфіцытнымі.

12. Для найбольш лепшага праектаваньня і скарачэньня часу, патрэбнага для праектнай работы, усе праектныя бюро павінны мець паміж сабою цесны кантакт у сэне абмену вопытам і новымі дасягненьнямі ў галіне праектаваньня.

13. Праекты найбольш складаныя з тэхнічнага боку, праекты пабудоў, маючых шырокае грамадзкае значэньне і тыповыя праекты рэкамэндуецца да іх зацьверджаньня абгаварыць у грамадзкіх арганізацыях (прадстаўнікі ІТС і актыву вытворчых нарад), а таксама прапусьціць праз экспэртызу знаючых асоб.

14. Усе праекты (рысункі, разьлікі, паясьняльныя запіскі і інш.) да іх здачы павінны быць дакладна праверанымі як у адносінах адпаведнасьці вытворча-тэхнічных разьлікаў, арытмэтычных выкладак, адпаведнасьці рысункаў разьліковым даным, дакладнай увязцы ўсіх разьмераў на рысунках і інш., і павінны мець подпісы кіраўніка бюро, праектыроўшчыка, правяраючага праект і зьняўшага копіі.

15. Пры складаньні дагавораў або ўмоў на выкананьне праектных работ у іх павінна быць дакладна паказана заданьне з падрабязным пералікам усіх элемэнтаў, якія патрабуюцца заказчыкам (вышукі, эканамічнае абсьледваньне, эскіз, канчатковы праект, рабочыя рысункі, каштарыс, тэхнічныя разьлікі, паясьняльныя запіскі і да т. п.), а таксама тэрміны выкананьня, як канчатковы, так і пэрыадычныя для пасобных элемэнтаў праекту.

16. Праектныя бюро зьяўляюцца адказнымі як за правільнасьць і паўнату праектаў і разьлікаў, захаваньне ўсіх дырэктыў па будаў-

ніцтву (п. 7), так і захаваньне тэрмінаў выкананьня заказу (Правілы Кам. па Будаўніцтву пры СПА за 19/I—1929 г.).

Старшыня Камітэту Будаўніцтва пры
Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

Сакратар *М. Сецко.*

31 сьнежня 1929 г.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

### пра скасаваньне палажэньня пра ўзаемаадносіны органаў НКП і НКАЗ у галіне прамыслова-санітарнага нагляду і вывучэньня прафэсійных шкоднасьцяў і захварэньняў.

Народныя камісарыяты Працы і Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць:

З часу выданьня пастановы СНК СССР за 10/IV—1929 г. „Пра разьмежаваньне работы органаў НКП і НКАЗ у галіне нагляду за санітарным становішчам прадпрыемстваў („Изв. НКТ“ 1929 г., № 27) лічыць скасаваным палажэньне пра ўзаемаадносіны органаў НКП і НКАЗ у галіне прамыслова-санітарнага нагляду і вывучэньня прафэсійных шкоднасьцяў і захварэньняў, зацьверджанае НКП і НКАЗ 4/VI—1926 г. за № 41.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *П. Саламонаў.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

26 сьнежня 1929 г.
№ 82.

---

## 4. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР

### пра нормы дапамог па часовай непрацаздольнасьці і дадатковых відах.

Для узгадненьня чынных па БССР палажэньняў у адносінах да дапамог, якія выдаюцца органамі сацыяльнага страхаваньня, з пастановамі Саюзнага Савету Сацыяльната Страхаваньня пры НКП СССР за 26/IV—1928 г. № 287 („Изв. НКТ“ 1928 г., № 20) і за 21 сакавіка 1929 г. № 130 („Изв. НКТ“ 1929 г., № 17) і для скасаваньня ўсіх ранейшых пастаноў і абежнікаў па гэтым пытаньні, Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць з 1-га студзеня 1930 г. наступныя нормы дапамог па часовай непрацаздольнасьці і дадатковых відах:

а) максымальны разьмер дапамогі па часовай непрацаздольнасьці па ўсёй БССР—150 р.

б) Па дадатковых відах:

4-ы пояс.

Менск, Віцебск, Гомель і іх рабочыя прыгарады:
на дагляд . . . . . . 24 р.
„ кармленьне . . . . . 6 „
„ пахаваньне асоб старэй 10 год . 27 „
„ пахаваньне асоб да 10 год . . 13 „ 50 к.

5-ы пояс.

Іншыя акруговыя гарады (Магілеў, Ворша, Полацак, Бабруйск, Мазыр),—Барысаў, Добруш, Рэчыца і іх рабочыя прыгарады:
на дагляд . . . . . . 22 р.
„ кармленьне . . . . . 5 „ 50 к.
„ пахаваньне асоб, старэй 10 год . 25 „
„ пахаваньне асоб да 10 год . . 12 „ 50 к.

5-ы пояс з зьніжэньнем на 15%.

Чэрвень, Койданава, Негарэлае (Менскай акругі), Ветка, (Гомельскай акругі), Жлобін, Рагачоў, Асіповічы, Слуцак (Бабруйскай акругі), Быхаў, Клімавічы (Магілеўскай акругі), Горкі, Якаўлевічы (Аршанскай акругі), Дрыса, Лепель (Полацкай акругі), Петрыкаў, Калінкавічы (Мазырскай акругі), Ноўкі, Высачаны, Пудоць, Чашнікі, Гарадок, Сенна, (Віцебскай акругі):
на дагляд. . . . . . 18 р. 76 к.
„ кармленьне . . . . . 4 „ 70 „
„ пахаваньне асоб старэй за 10 год . 21 „ 25 „
„ пахаваньне асоб да 10 год . . 10 „ 60 „

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР *П. Саламонаў.*

Адказны Сакратар *Э. Ханін.*

30 сьнежня 1929 г.

---

Узгоднена з ЦП Саюзу Працаўнікаў Асьветы.

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Асьветы і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**па ажыцьцяўленьню пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 лістапада 1929 году „Пра ўстанаўленьне пэрыадычных набавак да асноўнае заработнае платы некаторых катэгорый пэдагагічных працаўнікоў і загадчыкаў народных дамоў і хат-чытальняў“.**

На падставе арт. 10 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 лістапада 1929 г. „Пра ўстанаўленьне пэрыадычных набавак да асноўнае заработнае платы некаторых катэгорый пэдагагічных працаўнікоў і загадчыкаў народных дамоў і хат-чытальняў“ (З. З. БССР 1929 г., № 41, паст. 244). НК Асьветы і НК Фінансаў БССР прапануюць пры правядзеньні ў жыцьцё паказанай пастановы кіравацца паступным:

1. Правам на атрыманьпе пэрыадычных набавак карыстаюцца:

а) Пэдагагічныя працаўнікі—усіх школ сацыяльнага выхаваньня, дашкольных установ, дзіцячых дамоў, вячэрніх школ рабочай моладзі,

вячэрных школ павышанага тыпу для дарослых, пэдагагічныя працаўнікі і інструктары—прафэсыіянальных школ усіх тыпаў, вучэбна-вытворчых майстэрняў, тэхнікумаў, рабочых факультэтаў і ўстаноў для дэфэктыўных дзяцей і падлеткаў;

б) Загадчыкі народных дамоў і хат-чытальняў.

Увага. Пэнсіянэры з ліку паказаных у гэтым артыкуле катэгорый працаўнікоў, якія працуюць ва ўстановах, што даюць права на атрыманьне пэрыядычных набавак, і атрымоўваюць палову пэнсіі, маюць права на атрыманьне пэрыядычных набавак, як і другія працаўнікі данай катэгорыі.

2. Для вылічэньня разьмеру выдаткаў на пэрыядычныя набаўкі працаўнікі, якія маюць права на пэрыядычныя набаўкі (арт. 1), падзяляюцца на 4 групы. Да першай з іх належаць тыя, якія маюць стаж 20 і больш гадоў, да другой—тыя, якія маюць стаж ад 15 да 20 гадоў, да трэцяй—ад 10 да 15 гадоў, да чацьвертай—5 гадоў.

Кантрольным момантам для вылічэньня поўных гадоў працы зьяўляецца 1 кастрычніка кожнага году.

3. Пры вылічэньні стажу залічваецца праца на пасадах загадчыкаў, настаўнікаў, выхавальнікаў, інструктароў працоўных працэсаў ва ўсіх быўшых пачатковых і вышэйшых пачатковых школах, прагімназіях, гімназіях, рэальных школах, камэрцыйных, а таксама праца ў школах сацыяльнага выхананьня, у дашкольных установах, дзіцячых дамох, праца загадчыкаў нардамоў, хат-чытальняў, праца ва ўстановах для дэфэктыўных дзяцей і падлеткаў, праца ў школах рабочай моладзі, вячэрніх школах павышанага тыпу для дарослых, навучальна-вытворчых майстэрнях, прафэсіянальных школах, агульна-адукацыйных і пэдагагічных курсах, тэхнікумах, рабочых факультэтах і ўсякага роду іншых навучальных установах як дарэвалюцыйнага, так і пасьлярэвалюцыйнага пэрыяду, якія па сваёй праграме і тыпу адпавядаюць ніжэйшым і сярэднім навучальным установам, незалежна ад таго, на якія сродкі яны ўтрымоўваліся альбо ўтрымоўваюцца.

Таксама залічваецца ў стаж час выкладаньня агульна-адукацыйных прадметаў у вайсковых і іншых школах, а таксама і выкладаньне працоўных працэсаў, сьпеваў, музыкі, маляваньня і фізкультуры пры ўмовах, калі апошняе зьяўлялася асноўнай працай працаўніка. Праца ў школах малапісьменных і па ліквідацыі няпісьменнасьці (на лікпунктах і ў парадку індывідуальна-групавога навучаньня) залічваецца ў стаж толькі ў тым выпадку, калі яна насіла сталы характар, г. зн. цягнулася на працягу ўсяго навучальнага году.

Увага. Праца на пасадах клясных наглядчыкаў, наглядчыц і клясных дам, выкладаньне прадметаў рэлігійнага культу і вайскавых дысцыплін, а таксама праца ў нядзельных (васкрэсных) школах, у якасьці кандыдата на настаўніка ў дарэвалюцыйны час у стаж пэдагагічнай працы не залічваецца.

4. У стаж працы для атрыманьня набавак залічваюцца наступныя перапынкі ў працы:

а) служба ў Чырвонай Арміі і Флёце, а таксама ў дарэвалюцыйнай арміі па мабілізацыі;

б) служба на выбарных пасадах у савецкіх і прафсаюзных органах;

в) служба на пасадзе інспэктара народнай асьветы;

г) час знаходжаньня ў навучальных установах, калі працаўнік паступіў у навучальную ўстанову беспасрэдна з працы, якая дае права на набаўкі (арт. 3) і калі ён пасьля сканчэньня навучальнай ўстановы паступіў беспасрэдна на такую працу альбо на пасаду інспэктара нарасьветы.

Увага. Сьпіс памянёных у п. „г" гэтага артыкулу пэдагагічных навучальных устаноў устанаўліваецца НК Асьветы.

д) час знаходжаньня ў дарэвалюцыйны час у астрозе, на катарзе і ў ссылцы за палітычную дзейнасьць;

е) час беспрацоўя, калі беспрацоўны быў зарэгістраваны ў органах працы і атрымліваў або меў права на дапамогу ў парадку сацыяльнага страхаваньня.

5. Праца на пасадах, паказаных у арт. 3 гэтай інструкцыі, якая дае права на атрыманьне пэрыядычных набавак, павінна быць дакумэнтальна пацьверджана.

Дакумэнтамі, якія пацьвярджаюць стаж, могуць быць: быўшыя службовыя сьпісы (фармуляры), працоўныя сьпісы, пасьведчаньні адпаведных органаў народнае асьветы і навучальных устаноў як савецкіх, так і дарэвалюцыйных па месцу працы, пасьведчаньні савецкіх і прафсаюзных органаў.

У тых выпадках, калі стаж працы і адукацыйны цэнз нельга пацьвердзіць дакумэнтамі, паказанымі ў гэтым артыкуле (ліквідацыя ўстановы, адсутнасьць архіўнага матарыялу і г. д.), дакумэнтамі могуць зьяўляцца паказньні трох членаў прафсаюзаў ня менш, як з 7-мі гадовым прафсаюзным стажам, подпісы якіх павінны быць пасьведчаны адпаведнымі савецкімі альбо прафсаюзнымі органамі.

Час перапынкаў, якія залічваюцца ў стаж працы, паводле арт. 4і гэтай інструкцыі, пацьвярджаецца ў такім самым парадку, як і стаж працы, якая дае права на атрыманьне пэрыядычнай набаўкі.

6. На падставе дакумэнтаў, пералічаных у арт. 5 гэтай інструкцыі, НК Асьветы (у адносінах культасьветных устаноў, якія знаходзяцца на дзяржаўным каштарысе), інспэктары народнае асьветы— акруговы, гарадзкі і раённы (у адносінах культасьветных устаноў—якія знаходзяцца на адпаведным мясцовым каштарысе і на гаспадарчым разрахунку), вядуць дакладны падлік стажу ўсіх працаўнікоў, якія маюць права на атрыманьне пэрыядычных набавак паводле арт. 1 гэтай інструкцыі і кожны год к 1-му кастрычніка пераводзяць гэтых працаўнікоў з аднэй групы у другую ў залежнасьці ад зьмены ў іх стажы.

7. Паводле арт. арт. 4 і 8 пастановы ЦВК і СНК БССР за 17 лістапада 1929 г. пэрыядычныя набаўкі працаўнікам, якія маюць права на іх атрыманьне, уводзяцца ў такой паступовасьці: для асоб 1-й групы—з 1 кастрычніка 1929 г., для асоб II групы—з 1 кастрычніка 1930 г., для асоб трэцяй групы—з 1 кастрычніка 1931 г., для асоб чацьвертай групы—з 1 кастрычніка 1932 г. Другая набаўка ўводзіцца для І-й, ІІ-й і ІІІ-й груп праз тры гады пасьля атрыманьня першай набаўкі, трэцяя набаўка ўводзіцца для І-й і ІІ-й груп праз тры гады пасьля атрыманьня другой набаўкі і чацьвертая набаўка ўводзіцца для І-й групы праз тры гады пасьля атрыманьня трэцяй набаўкі. У далейшым перыядычныя набаўкі асобам, якія маюць права на іх атры-

маньне, уводзяцца праз кожныя пяць год працы і з аднэй групы ў другую пераводзяцца, паводле арт. 6 гэтай інструкцыі.

Набавак ня можа быць больш за 4.

Парадак атрыманьня набавак у бліжэйшыя гады можа быць паказаны наступнай табліцай:

| Гады: | Стаж: з 5 да 10 г. | з 10 да 15 г. | з 15 да 20 г. | з 20 г. і звыш |
|---|---|---|---|---|
| 1929/30 . . . . | 0 | 0 | 0 | 1 набаўка |
| 1930/31 . . . . | 0 | 0 | 1 набаўка | 1 " |
| 1931/32 . . . . | 0 | 1 набаўка | 1 " | 1 " |
| 1932/33 . . . . | 1 набаўка | 1 " | 1 " | 2 " |
| 1933/34 . . . . | 1 " | 1 " | 2 " | 2 " |
| 1934/35 . . . . | 1 " | 2 " | 2 " | 2 " |
| 1935/36 . . . . | 1 " | 2 " | 2 " | 3 " |
| 1936/37 . . . . | 1 " | 2 " | 3 " | 3 " |
| 1937/38 . . . . | 2 " | 2 " | 3 " | 3 " |
| 1938/39 . . . . | 2 " | 2 " | 3 " | 4 " |

8. Права на залічэньне ў адну з паказаных у арт. 7 груп для атрыманьня пэрыадычнае набаўкі, маюць толькі тыя працаўнікі, якія працавалі ня менш 5 гадоў у савецкіх установах, паказаных у арт. 1 гэтай інструкцыі.

9. На атрыманьне набаўкі залічваюцца, пры наліччы адпаведнага стажу, толькі тыя працаўнікі, якія ў адпаведных установах па згрупаванасьці ўсіх відаў пэдагагічнай працы, як: непасрэдная праца па навучаньню і выхаваньню дзяцей, загадваньне габінэтамі, сэкратарства ў школьных саветах, маюць ня меньш 75% устаноўленай стаўкі для працаўніка данай катэгорыі, хаця-б іх праца працякала і ў некалькіх установах.

Нагрузка звыш устаноўленай нормы не дае права на атрыманьне павялічанага разьмеру і ліку набавак.

10. Пэрыадычныя набаўкі ўстанаўліваюцца ў наступным разьмеры:

а) Загадчыкам, настаўнікам і выхавальнікам: у чатырохгодках, школах першай ступені, першым канцэнтры сямігодкі, дашкольных установах, дзіцячых дамох, загадчыкам хат-чытальняў і народных дамоў і інструктарам устаноў, памянёных у арт. 1 гэтай інструкцыі, якія скончылі вышэйшую школу альбо маюць спэцыяльную пэдагагічную асьвету,—72 р. на год, а рэшце працаўнікоў гэтых устаноў—60 р. на год.

б) Загадчыкам, настаўнікам і выхавальнікам: у другім канцэнтры сямігодкі, школах другой ступені, вопытна-практыкавальных і дасьледчых школах, школах сялянскай моладзі, установах для дэфэктыўных, прафэсійных школах усіх тыпаў, навучальна-вытворчых майстэрнях, вячэрніх школах рабочай моладзі, вячэрніх школах павышанага тыпу для дарослых, тэхнікумах і рабочых факультэтах, якія скончылі вышэйшую школу альбо маюць спэцыяльную пэдагагічную асьвету—150 р. на год, а рэшце працаўнікоў гэтых устаноў—100 р. на год.

11. Разьмер набаўкі вызначаецца ў залежнасьці ад адукацыйнай падрыхтоўкі і тыпу навучальнае ўстановы, у якой даны працаўнік працуе к часу атрыманьня набаўкі, а не ад таго, па якому цэнзу асьветы і тыпу навучальнае ўстановы вылічан папярэдні стаж.

12. Калі працаўнік адначасова працуе ў розных навучальных установах, дык разьмер набаўкі вылічваецца па ўстановах павышанага тыпу толькі пры тых умовах, калі працаўнік заняты ва ўстановах павышанага тыпу ня менш 50% асноўнай нормы працы для аднэй з гэтых устаноў.

13. Да ліку сярэдніх спэцыяльных пэдагагічных устаноў, сканчэньне якіх дае права працаўнікам, памянёным у арт. 10 гэтай інструкцыі (абзац першы) на агрыманьне 72 р. на год, адносяцца: пэдтэхнікумы, палітасьвет-тэхнікумы, двохгадовыя пэдагагічныя настаўніцкія курсы, цэнтральныя вышэйшыя курсы беларусазнаўства і вышэйшыя курсы грамадазнаўства, быўшыя настаўніцкія сэмінарыі, настаўніцкія школы (не другаклясныя настаўніцкія) і іншыя сярэднія навучальныя ўстановы з пэдагагічнай клясай і не пэдагагічныя вышэйшыя школы; ва ўсіх іншых выпадках, памянёным у гэтым артыкуле асобам з меншай асьветай, вызначаецца набаўка ў 60 р. у год.

Увага. Асобы, якія ня скончылі спэцыяльнай пэдагагічнай ўстановы, але вытрымалі іспыты на годнасьць настаўніка пачатковай школы, маюць права на атрыманьне пэрыядычнай набаўкі ў разьмеры 72 р. у год.

14. На атрыманьне набаўкі ў 150 р. у год маюць права працаўнікі, памянёныя ў артыкуле 10 гэтай інструкцыі (абзац другі), якія атрымалі вышэйшую асьвету, альбо маюць спэцыяльную пэдагагічную асьвету ня ніжэй быўшага настаўніцкага інстытуту (Інстытуту Народнае Асьветы і г. д.) ці скончылі цэнтральныя вышэйшыя курсы беларусазнаўства і вышэйшыя курсы грамадазнаўства, калі яны працуюць па спэцыяльнасьці.

Для працаўнікоў (абзац другі артыкулу 10 гэтай інттрукцыі), якія скончылі іншыя навучальныя ўстановы, устанаўляецца набаўка ў 100 р. у год.

Увага. Сьпіс навучальных устаноў дарэвалюцыйнага пэрыяду, сканчэньне якіх дае права працаўнікам на атрыманьне набаўкі ў 150 р. у год, устанаўліваецца НК Асьветы.

15. Працаўнікі, якія здалі экстэрнам іспыты за курс тэй ці іншай навучальнай ўстановы, пры ўстанаўленьні іх праў на атрыманьне пэрыядычнай набаўкі, прыроўніваюцца да працаўнікоў, якія скончылі гэтую навучальную ўстанову.

16. Пэрыядычныя набаўкі выплачваюцца за кошт дзяржаўнага, мясцовага бюджэту альбо гаспадарчых арганізацый па належнасьці.

17. Набаўкі выплачваюцца адначасова з выплатай пэнсіі.

18. На пэрыядычныя набаўкі асобам, пералічаным у арт. 1 гэтай інструкцыі, налічваюцца ва ўстаноўленым парадку ўносы на сац. страхаваньне і ўтрыманьне мясцкому.

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Платун.*

Нам. Народнага Камісара Фінансау БССР *Л. Бунін.*

2 студзеня 1930 г.

---

Дадатак № 1.

## СЬПІС

пэдагагічна-навучальных устаноў, час знаходжаньня ў якіх залічваецца ў стаж працы на атрыманьне пэрыадычных набавак, калі перад паступленьнем у гэтую ўстанову і пасьля скончэньня яе працаўнік займаў і паступіў на працу, якая дае права на атрыманьне пэрыадычных набавак.

1) Усе спэцыяльныя пэдагагічныя навучальныя ўстановы як дарэвалюцыйнага, так і пасьлярэвалюцыйнага пэрыаду;
2) Унівэрсытэты (факультэты: пэдагагічны, фізыка-матэматычны і гісторыка-філёлёгічны);
3) Маскоўскія і Ленінградзкія (б. Петраградзкія) вышэйшыя жаночыя курсы;
4) Гісторыка-філёлёгічныя інстытуты ў Ленінградзе (б. Пецярбурзе) і ў Нежыне;
5) Інстытут Народнай Асьветы;
6) Практычны Інстытут Народнай Асьветы;
7) Настаўніцкія інстытуты, пэдтэхнікумы і 2-х гадов. пэдкурсы;
8) Вышэйшыя курсы беларусазнаўства і вышэйшыя курсы грамадазнаўства.

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Платун.*

Сакратар НКА БССР *Грамыка.*

---

Дадатак № 2.

## СЬПІС

навучальных устаноў, скончэньне якіх у дарэвалюцыйны час дае права настаўнікам школ павышанага тыпу на атрыманьне пэрыадычнай набаўкі ў разьмеры 150 руб. у год.

1) Унівэрсытэты;
2) Маскоўскія, Ленінградзкія (б. Пецярбурскія) і Казанскія вышэйшыя жаночыя курсы;
3) Гісторыка-філёлёгічныя інстытуты ў Нежыне і Ленінградзе (б. Пецярбурзе);
4) Ленінградзкі (б. Пецярбурскі) жаночы пэдагагічны інстытут;
5) Пэдагагічныя курсы пры вучэбных акругах;
6) Шэлапуцінскі пэдагагічны інстытут у Маскве;
7) Камерцыйныя інстытуты;
8) Акадэмія мастацтва;
9) Кансэрваторыя;
10) Школа жывапісі, ваяньня і зодчаства ў Маскве;
11) Школа Штыгліца ў Ленінградзе (б. Пецярбурзе);
12) Варшаўскія курсы;
13) Курсы замежных моў Сьцяпанава ў Маскве (сконч. ў 1915—1917 г. г.);
14) Курсы замежных моў Лаўрэнцьцявай ў Маскве (снонч. у 1915—17 г.г.);

15) Лясны Інстытут;
16) Палітэхнічныя інстытуты;
17) Тэхналёгічныя інстытуты;
18) Вышэйшая тэхнічная школа ў Маскве;
19) Ціміразеўская (б. Пятроўская) Акадэмія ў Маскве;
20) Горны Інстытут;
21) Электратэхнічны Інстытут;
22) Інстытут грамадзянскіх інжынэраў;
23) Інстытут інжынэраў шляхоў зносін;
24) Археолёгічныя інстытуты;
25) Настаўніцкія інстытуты;
26) Строганаўская школа ў Маскве (па спэцыяльнасьцях);
27) Ленінградзкая школа б. Лохвіцкай-Скалон;
28) Ленінградзкая школа б. Раева;
29) Псыха-нэўралёгічны Інстытут Бехцерава;
30) Курсы Лесгафта.

Народны Камісар Асьветы БССР *А. Платун.*

Сакратар НКА БССР *Грамыка.*

---

## 6. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

**пра парадак апраўданьня выдаткаў па тых сродках, якія атрыманы ад іншых установаў на выкананьне іх даручэньняў.**

Шэраг установаў, якія знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэтах, як паказвае практыка Дзяржфінкантролю, перадаюць частку сваіх сродкаў іншым установам на выкананьне пэўных даручэньняў, напрыклад, статыстычным органам на асобныя спэцыяльныя статраспрацоўкі, органам аховы здароўя на аказаньне лекдапамогі чыгуначнікам і саматужнікам, органам нар. асьветы на правядзеньне курсаў беларусазнаўства для курсантаў ад РСФСР і т. д.

Для апраўданьня зробленых выдаткаў установы-распарадчыкі крэдытаў, перадаўшыя сродкі, вымагаюць ад установаў, выконваючых іх даручэньні, прадстаўленьня справаздач з далучэньнем усіх апраўдальных дакумэнтаў. Гэткі парадак без усякай патрэбы значна ўскладняе справаздачную працу.

Таму, ў мэтах спрашчэньня справаздачнасьці ў паказаных вышэй выпадках, Народны Камісарыят Фінансаў БССР падае для выкананьня наступныя паказаньні пра парадак апраўданьня выдаткаў па тых сродках, якія атрыманы ад іншых установаў на выкананьне іх спэцыяльных даручэньняў:

1. Апраўдальным дакумэнтам на выдаткі сродкаў, перададзеных іншым установам на правядзеньне абумоўленых работ ці выкананьне спэцыяльных даручэньняў, зьяўляецца сумарная справаздача з пералікам выкананых работ і вызначэньнем іх каштоўнасьці.

2. Сапраўдныя выдатковыя апраўдальныя дакумэнты ў агульным парадку захоўваюцца ва ўстановах, атрымаўшых даручэньне і праводзіўшых як работы, так і выдаткаваньне сродкаў.

3. Справаздачнасьць устаноў, выконваючых работы па асобных сцэцыяльных даручэньнях, павінна быць пабудавана так, каб можна было вызначыць фактычную каштоўнасьць кожнай паасобнай выкананай работы.

Народны Камісар Фінансаў БССР *В. Мікуліч.*

2 студзеня 1930 г.
№ 6001—1.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра кіраваньне лясамі мясцовага значэньня ў мясцох суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

*Усім АКРЗА, РВК і лясьніцтвам.*

У сувязі з суцэльнай калектывізацыяй сельскае гаспадаркі раёнаў і акруг—Н. К. Земляробства БССР прапануе АКРЗА ў галіне арганізацыі гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня ўжыць наступныя мерапрыемствы:

1) У мясцох суцэльнае калектывізацыі лясы мясцовага значэньня перадаць калгасам;

2) Гаспадарчае кіраўніцтва лясамі мясцовага значэньня ў калгасах на тэрыторыі куста павінна быць падпарадкавана праўленьню куста калгасаў, а ў маштабе раёну—Райкалгассаюзу;

3) У мэтах лепшай пастаноўкі аховы лесу ад парубак і розных пашкоджаньняў, лясная варта, назначаемая праўленьнем куста калгасаў, падпарадкоўваецца ўпаўнаважаным калгасаў, вызначаным кустовым праўленьнем для працы па вядзеньню гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня па калгасах;

4) Для кіраваньня і правядзеньня тэхнічнай працы ў лясох мясц. зн (агульнага нагляду за аховай лесу, лесакультурамі і інш. тэхн. працай) пры Райкалгассаюзе ўводзіцца тэхнарук сцэцыялісты-лесавод;

5) Усе асноўныя пытаньні гаспадараньня ў лясох мясц. зн. (карыстаньне драўнінай, ахова лесу, лесакультурная праца і інш.) вырашаюцца праўленьнем куста калгасаў і зацьвярджаюцца Райкалгассаюзам;

6) Агульны нагляд у галіне адміністрацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва ў лясох мясцовага значэньня, перададзеных калгасам, і асабліва ў адносінах аховы іх, ускладзены сельскія саветы і РВК (§ 11 Палаж. за 1/VI—1929 г.);

7) У мэтах лепшага здавальненьня патрэб калгасаў ў драўніне і сталасьці карыстаньня лясная гаспадарка ў лясох мясц. зн. павінна быць арганізавана паводле плянаў лесаўпарадкаваньня, у зьвязку з чым АКРЗА трэба ў першую чаргу ўпарадкаваць лясы, перададзеныя калгасам;

8) Тэхнічны нагляд за выкананьнем плянаў ляснай гаспадаркі, паводле § 27 Палаж. аб лясох мясц. зн., робіцца дзяржаўнымі ляснымі органамі (лясьніцтвамі і інспэктарыятамі лясоў);

9) Карыстаньне драўнінай праводзіцца паводле пляну ляснай гаспадаркі і ў адпаведнасьці з агульнымі запатрабаваньнямі вытворчага пляну будаўніцтва калгасаў;

10) Паасобныя дрэвы і дробныя (да 0,5 га), не ўвайшоўшыя ў склад лясоў мясц. значэньня, групы дрэў, знаходзячыяся на зямельнай тэрыторыі калгасаў, выкарыстоўваюцца калгасамі на патрэбы будаўніцтва і апалу;

11) Калгасы павінны прымаць усе захады да забясьпечаньня лесааднаўленьня вырубак і прагалін (натуральна і штучна) у перададзеных у іх карыстаньне лясох. Для ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў у праўленьні куста калгасаў складаюцца грашовыя фонды, якія выдаткоўваюцца выключна на лесакультуру і ахову лесу;

12) Ва ўсіх выпадках, непрадугледжаных гэтым абежнікам, калгасы кіруюцца існуючым Палажэньнем аб лясох мясцовага значэньня за I/VI—1929 г.;

13) Гэты абежнік АКРЗА распаўсюджвае сярод РВК і лясьніцтваў.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Заг. Лясн. Кіраўніцтва *Я. Пятрушын.*

нспэктар лясоў мясц. знач. *Е. Міхасенка.*

31 сьнежня 1929 г.
№ 4—к/4728.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічага заказьніку ў Смалянецкай лясной дачы Чашніцкага лясьніцтва Віцебскай акругі.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць паляўнічы заказьнік ва ўрочышчах: „Лазоўка“, „Міхалаўская Пушча“ і „Саковішча“ Смалянецкай лясной дачы, Чашніцкага лясьніцтва Віцебскай акругі, на плошчы 1050 га, на тэрмін 5 год, начынаючы з 1 студзеня 1930 г. па 1 студзеня 1935 г. у наступных межах: пачатковы пунк—стык меж дзяржлесфонду Смалянецкай дачы—землекарыстаньня вёсак Аксянцы—Смалянцы; адгэтуль мяжа заказьніка ўстанаўляецца па мяжы дзяржлесфонду з землекарыстаньнем в. Смалянцы—калякгыву Міхалова—в. Вітковічы—Дубінцы—Марынцы—Язба—ур. Падзалазі Аксенцецкай дачы (дзяржлесфонд)—в. Аксенцы да пачатковага пункту.

Возера Дубянец цалкам уключаецца ў межы заказьніку.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Загад. Лясного Кіраўніцтва *Я. Пятрушын.*

Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі *Ю. Дзярыба.*

4 студзеня 1930 г.

---

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічага заказьніку ў Паташынскай дачы Гарадоцкага лясьніцтва Віцебскай акругі.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе арганізаваць паляўнічы заказьнік у Паташынскай дачы Гарадоцкага лясьніцтва Віцебскай акругі (кв. кв. з 1-га па 19 уключна) на плошчы

2034 га, тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 1/I—1930 г. да 1/I—1935 г., у наступных межах:

пачатковы пункт—стык меж землекарыстаньня в. Бор, 15-га кварталу Паташынскай дачы і возера Коша, адсюль па мяжы дзяржлесфонду і землекарыстаньняў вёсак: Бор—Кавалеўцы—Сіўцы, Аніскава—Чысьцікі—Сівіна—Левашы—Даўгінава—Шабанава—Дзюбкі—Даўгінава—Радчэнкі—Расьлякі—Ауданькава—Расьлякі—Мельніца—Баравая—чыгуначная дарога—Баравая—чыгуначная дарога—Сутокі—Баравая—Паташня 2-ая—Поташня 1-ая—Поташня 2-я—Сасноўка—чыгуначная дарога—Верацея 2-ая—Верацея 3-я—В. Прудок—Верацея 1-ая.—Адгэтуль—проста на поўдзень цераз возера Коша—па паўднёвым беразе возера Коша—землекарыстаньнем вёсак Ліпавы Мост—Суроўні—Гарадок—Сьвіналупы—Сіфонава—Смалькі—Зуські—Дубнікі—Малое Коша да паўднёвага берагу возера Коша і ад гэтага пункту проста цераз возера Коша да пачатковага пункту.

Паляваньне на возеры Коша ў межах заказьніку забараніць.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Нам. Загадчыка Ляснога Кіраўніцтва *Я. Пятрушын.*

Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі *Ю. Дзярыба.*

8 студзеня 1930 г.

---

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра зьмену § 15 „Санітарных правілаў пра гандаль малаком і малочнымі прадуктамі“.**

Народныя камісарыяты Аховы Здароўя і Ўнутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1) Скасаваць § 15 „Санітарных правіл пра гандаль малаком і малочнымі прадуктамі“ (Бюл. СНК 1929 г., № 11).

2) Зьмест § 15 паказаных правілаў прыняць у наступнай рэдакцыі „15. За парушэньне азначаных правілаў вінаватыя падлягаюць адказнасьці паводле п. „в“ арт. 13 закону пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў“ (З. З. БССР 1928 г. № 17, арт. 160).

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Інспэктар Сан.-Гіг. Справы *Магілеўчык.*

30 сьнежня 1929 г.
№ 87.

---

## 11. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра ўвядзеньне ў дзейнасьць інструкцыі НКФ СССР за 5 чэрвеня 1929 г. № 15 аб парадку спагнаньня збораў за выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў, віз і відаў на пражываньне для чужаземцаў.**

*Усім адміністрацыйным аддзелам акрвыканкомаў.*

Накіроўваючы разам з гэтым інструкцыю НКФ СССР № 15 аб парадку спагнаньня збораў за выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў, віз і відаў на пражываньне з пералікам дакумэнтаў да яе,

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе прыняць да кіраваньня наступнае:

### А. У галіне выдачы замежных пашпартоў.

1. Парадак спагнаньня збораў, прадугледжаных інструкцыяй НКФ СССР № 15, застаецца ранейшым, г. зн. грошы ўносяцца грамадзянамі ў аддзяленьні Дзяржбанку, а квіткі аб спагнаных зборах прадстаўляюцца ў адмаддзелы разам з заявамі аб выдачы замежных пашпартоў.

2. У тых выпадках, калі грамадзянам прыходзіцца выдаваць у парадку арт. 23 інструкцыі НКУС № 84 (Бюл. СНК БССР 1928г., № 11), даведкі аб тым, што ў будучым ім будуць выдадзены замежныя пашпарты, 5%-ны збор павінен уносіцца пры падачы заявы, а астатняя сума пры атрыманьні замежнага пашпарту.

3. Пры падачы заявы аб выдачы дазволу на выезд заграніцу выплачваецца толькі асноўны збор, а 10% збор на карысьць Чырвонага Крыжу спаганяецца пры выдачы замежнага пашпарту.

4. У выпадку адмовы ў выдачы замежнага пашпарту або нескарыстаньня яго, ўнесеныя грошы зварочваюцца касамі Дзяржбанку пасьля прадстаўленьня адпаведнай даведкі са ссылкай на квіток, па якому былі ўнесены грошы.

5. Пры адмове ў выдачы замежнага пашпарту і аскарджаньні адмовы або ўзбуджэньні пытаньня аб пераглядзе адмовы грамадзяне маюць права, каб унікнуць уплаты другі раз 5% збору, не атрымоўваць унесеных грошай да разгляду іх скаргі.

6. Асобы, якім на падставе арт. 25 інструкцыі НКФ СССР будзе адмоўлена ў дачы ільготы, маюць права ў месячны тэрмін аскардзіць адмову ў НКУС праз адпаведны адмаддзел.

У такіх выпадках скарга разам з матываваным заключэньнем адмаддзелу павінна накіроўвацца ў НКУС не пазьней 3-х дзённага тэрміну.

> Увага. Скаргі на адмову ў дачы ільготы не павінны прымацца ад тых асоб, якія ня могуць быць аднесены да ільготных катэгорый, устаноўленых інструкцыяй НКФ СССР.

7. Пры выдачы агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў бясплатна павінен спаганяцца сабекошт блянку пашпарту ў суме 2 руб.

Усе зьмены і папраўкі ў выданых бясплатна замежных пашпартох робяцца без спагнаньня збораў.

8. Пры пастанове аб вызваленьні ад збораў альбо аб дапасаваньні ільготы адмаддзеламі павінна рабіцца падрабязная спасылка на пункт і артыкул інструкцыі НКФ СССР, на падставе якіх даецца ільгота.

9. Ільготы па аплаце збораў за агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты ня могуць дапасоўвацца да наступных асоб, хоць-бы яны фармальна і падыходзілі пад устаноўленыя інструкцыяй НКФ СССР ільготныя катэгорыі:

а) пазбаўленых выбарчых правоў,
б) знаходзячыхся пад судом і сьледзтвам.

10. Апроч асоб, паказаных у арт. 18 інструкцыі НКФ СССР, павінны вызваляцца ад збораў за замежныя пашпарты члены сем'ў

малодшых супрацоўнікаў органаў НКЗС заграніцай, якія выяжджаюць да месца службы гэтых супрацоўнікаў і ня маюць права на атрыманьне службовых пашпартоў.

Вызваленьне ад збору ў такіх выпадках праводзіцца пасьля прадстаўленьня: а) даведкі ад Кіраўніцтва Спраў НКЗС СССР альбо ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры Ўрадзе БССР аб тым, што асоба, да якой выяжджае член сям'і, сапраўдна знаходзіцца на сталай службе ў органе НКЗС заграніцай і б) даведкі дамакіраўніцтва або сельсавету аб тым, што даная асоба зьяўляецца ўтрыманцам супрацоўніка органу НКЗС заграніцай і самастойнага заработку ня мае.

11. Для разгляду хадайніцтваў аб дачы ільгот, прадугледжаных арт. 25 інструкцыі НКФ СССР, адмаддзелам патрэбна скласьці камісію пад старшынствам прадстаўніка адмаддзелу з удзелам 2 членаў адміністрацыйна-прававой сэкцыі гарсавету.

Пры разглядзе хадайніцтва трэба мець на ўвазе, што ільготы могуць давацца толькі ў выпадках, прадугледжаных інструкцыяй, прычым камісія павінна дакладна высьветліць як патрэбу паездкі, так і маемаснае становішча данай асобы, і ў выпадку прызнаньня паездкі немэтазгоднай, у дачы ільготы адмовіць.

Адмова ў дачы ільготы па ўсіх іншым пунктах інструкцыі, не паказаных у арт. 25 інструкцыі, можа быць у тых выпадках, калі жадаючая скарыстаць ільготу асоба не здавальняе патрабаваньняў інструкцыі або не прадстаўляе патрэбных дакумэнтаў.

Увага. Паказанае ў разьдзеле „А" па Менскай акрузе выконваецца Замежнай Часткай Адміністрацыйнай Управы НКУС.

### Б. У галіне выдачы чужаземцам віз на выезд з СССР і відаў на пражываньне.

12. На падставе ўзаемнасьці ўстаноўлены асобныя зборы з наступных чужаземных грамадзян:

а) за візы на выезд з СССР:

| | |
|---|---|
| 1) Нямецкіх | 1 р. 86 к. |
| 2) Грэчаскіх | 2 р. 25 к. |
| 3) Таксама на шматразовы пераезд | 3 р. 75 к. |
| 4) Латвійскіх | 19 р. 00 к. |
| 5) Паўн.-Амэр. Злуч. Штатаў | 20 р. 00 к. |
| 6) Турэцкіх | 6 р. 00 к. |
| 7) Эстонскіх | 10 р. 00 к. |
| 8) Фінляндзкіх | 7 р. 50 к. |
| 9) Польскіх | 10 р. 00 к. |
| 10) Італьлянскіх | бясплатна. |
| 11) Ангельскіх | бясплатна. |

Увага 1. Асобы, якія заяўляюць аб прыналежнасьці да чужаземнага грамадзянства, аплачваюць зборы ў тым разьмеры, які ўстаноўлены для даных чужаземцаў.

Увага 2. За візы з правам узваротнага ўезду збор спаганяецца ў падвойным разьмеры, калі не ўстаноўлены іншыя стаўкі збораў.

Увага 3. Пры дачы выяздной візы на нямецкім нацыянальным пашпарце, у які ўпісана некалькі членаў сям'і ўласьніка пашпарту, збор спаганяецца з кожнай асобы, якая мае больш 21 году, а асобы ва ўзросьце да 21 году ад збораў вызваляюцца.

б) За віды на пражываньне:

З нямецкіх грамадзян тэрмінам на 1 год . . 2 р. 32 к.

Таксама пры адтэрмінаваньні віду на пражываньне да аднаго году, калі ён быў выддазены на тэрмін менш году, збор не спаганяецца.

Апроч паказаных у п. „а“ і “б“ гэтага артыкулу збораў і 10% збору ў карысьць Чырвонага Крыжу ніякіх іншых збораў з нямецкіх грамадзян не спаганяецца.

13. З чужаземных грамадзян, пералічаных у арт. 12, спагняецца 10% збор у карысьць Чырвонага Крыжу.

14. Пры выдачы чужаземцам віз на выезд з СССР збор спаганяецца з кожнай асобы, якая дасягнула 16 год, незалежна ад выдачы агульнай візы для ўсіх членаў сям'і альбо кожнаму асобна, за выключэньнем асоб, прадугледжаных увагай 3 да арт. 12.

15. Ад збораў за віды на пражываньне могуць вызваляцца пасьля прадстаўленьня адпаведных дакумэнтаў наступныя чужаземцы:

а) пэнсіянэры, якія атрымліваюць пэнсію ад органаў сацыяльнай забясьпекі або сацыяльнага страхаваньня;

б) беспрацоўныя, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю або маюць права на атрыманьне дапамогі;

в) вучні, якія знаходзяцца на дзяржаўнай стыпэндыі;

г) палітычныя эмігранты па хадайніцтвах МОПР'у.

16. Чужаземцы, якія не падыходзяць пад катэгорыі, пералічаныя ў арт. 15, могуць вызваляцца ад збораў толькі пры адсутнасьці ў іх маемасьці, крыніц даходаў і дапамогі з боку сваякоў або іншых асоб і арганізацый, г. зн. пры поўнай матарыяльнай незабясьпечанасьці.

17. Члены сем'яў асоб, вызваленых ад збораў на падставе арт. арт. 15 і 16 гэтага абежніку, могуць вызваляцца ад збораў толькі ў тых выпадках, калі яны ня маюць самастойнага даходу і пражываюць выключна на сродкі гэтых асоб.

18. За рэгістрацыйныя адзнакі на нацыяльных пашпартох чужаземных консулаў, супрацоўнікаў консульстваў і членаў іх сем'яў ніякіх збораў не спаганяецца.

19. З выданьнем гэтага абежніку і даданай да яго інструкцыі НКФ СССР касуюцца наступныя абежнікі НКУС БССР.

1) за 15/X—1926 г., № 289, 2) за 30/XII—1926 г., № 338, 3) за 2/III—1927 г., № 1073, 4) за 5/III—1927 г., № 1092, 5) за 18/VII—1927 г., № 132, 6) за 4/VII—1927 г., № 140, 7) за 27/VII—1928 г., № 98, 8) за 11/I—1929 г., № 8, 9) за 23/II—1929 г., № 26, 10) за 9/III—1929 г., № 30, 11) за 28/VI—1929 г., № 60, 12) за I/VIII—1929 г., № 122 і 13) за 15/VIII—1929 г., № 63.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

16 верасьня 1929 г.
№ 64.

**Копія**

„ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА".
Нар. Кам. Фінансаў Саюзу ССР
*Н. Бруханаў.*
5 чэрвеня 1929 г.

# Інструкцыя № 15

## аб парадку спагнаньня органамі народных камісарыятаў унутраных праў саюзных рэспублік збораў за выдачу агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў, дазволаў і віз на ўезд у СССР і выезд з СССР і відаў на пражываньне для чужаземцаў.

(Выдана на падставе арт. 17 паст. ЦВК і СНК СССР за 6/IV-1926 г (З. З. СССР 1926 г., № 27, арт. 167), арт. 13 паст. ЦВК і СНК СССР за 24/VII-1926 г. (З. З. СССР 1926 г., № 51, арт. 366) і арт. арт. 10 і 11 паст. ЦВК СНК СССР за 13/IV-1929 г. (З. З. СССР 1929 г., № 25, арт. 217).

Арт. 1. За выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў спаганяецца збор у наступных разьмерах:

А. Ільготныя стаўкі:

а) I катэгорыя . . . . . . 50 руб.
б) II „ . . . . . . 100 „

Б Нармальныя стаўкі:

в) III катэі рыя . . . . . 200 руб.
г) IV „ . . . . . 300 „

Арт. 2. Да 1-й катэгорыі (па стаўцы 50 руб.) адносяцца наступныя асобы:

а) рабочыя і служачыя, заработак якіх за шэсьць папярэдніх месяцаў у сярэднім не перавышаў 100 руб. у месяц; сяляне, якія маюць даход ад сваёй гаспадаркі ў межах неабкладанага с.-г. падаткам мінімуму, саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія пражываюць на сродкі ад асабістай вытворчай агульна-карыснай працы не па найму і якія ня плацяць прыбытковага падатку, а таксама члены семя'ў, якія знаходзяцца на ўтрыманьні пералічаных асоб — пры паездках заграніцу для лячэньня па заключэньню камісіі пры краявых, абласных і акруговых здраўаддзелах;

б) навуковыя працаўнікі, якія камандыруюцца заграніцу навуковымі арганізацыямі па хадайніцтвах адпаведных ведамстваў;

в) вучні, якія камандыруюцца заграніцу навучальнымі ўстановамі для практыкі і ўдасканаленьня па хадайніцтвах ведамстваў, якім падпарадкаваны гэтыя навучальныя ўстановы;

г) асобы, якія камандыруюцца дзяржаўнымі ўстановамі заграніцу на зьезды, канфэрэнцыі і г. д., а таксама члены мастацкіх, тэхнічных, прафэсійных, гуманітарных і іншых падобных арганізацый, якія дэлегіруюцца для тэй-жа мэты гэтымі арганізацыямі;

д) працаўнікі ўсіх відаў мастацтваў, якія накіроўваюцца на часовую працу заграніцу праз Н. К. Працы СССР (Цэнтрапасрэдрабіс) па ўзгадненьню з Н. К. Асьветы саюзнай рэспублікі;

е) члены спартыўных арганізацый, што камандыруюцца ВСФК заграніцу для ўдзелу ў спартыўных гульнях;

ж) утрыманцы — члены сямей асоб, якія знаходзяцца на сталай службе ва ўстановах СССР заграніцай, пры паездцы за-граніцу да месца службы паказаных асоб;

з) рабочыя і служачыя, якія жывуць у межах паласы адчужэньня К.-У. чыгункі і члены іх семя‘ў, пры зварочваньні з часовай паездкі ў СССР на тэрыторыю К.-У. чыгункі, пры ўмове наяўнасьці адзнак адпаведнага консула на дакумэнтах, па якіх яны выехалі ў СССР аб тым, што паездка іх зьяўляецца ўважлівай;

і) савецкія грамадзяне, якія жывуць заграніцай і едуць транзітам праз СССР, — пры ўмове адпаведнай адзнакі консула на пашпарце;

к) савецкія грамадзяне — члены семя‘ў чужаземцаў, пры паездцы заграніцу на сталае пражываньне;

л) атрымліваючыя дзяржаўную пэнсію ў парадку сацыяльнай забясьпекі альбо ў парадку сацыяльнага страхаваньня (у тым ліку і асобы, атрымліваючыя пэрсанальную пэнсію) — пры паездках заграніцу для лячэньня і ў выпадку эміграцыі;

м) беспрацоўныя, атрымліваючыя дапамогу па беспрацоўю альбо маючыя права на атрыманьне гэтакай — пры паездках заграніцу для лячэньня, падшуканьня сабе працы альбо для пражываньня на ўтрыманьні сваякоў.

Увага. Прадугледжаныя літ. „л“ і „м“ гэтага артыкулу ільготы могуць давацца таксама членам семя‘ў пералічаных асоб, калі яны знаходзяцца на ўтрыманьні гэтых асоб, але ня інакш, як пры паездках за-граніцу разам з памянёнымі ў літ. „л“ і „м“ асобамі, альбо пры паездцы заграніцу да іх, калі апошнія выехалі заграніцу раней, а таксама пры самастойных паездках для лячэньня.

Арт. 3. Да II-й катэгорыі (па стаўцы 100 руб.) адносяцца наступныя асобы:

а) рабочыя і служачыя, месячны заробак якіх па ўсіх пасадах разам не перавышае 250 руб. у месяц; сяляне, маючыя даход ад сваёй гаспадаркі ў межах пяцікратнага неабкладанага адзіным сельскагаспадарчым падаткам мінімуму; саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія жывуць на сродкі ад асабістай вытворчай агульна-карыснай працы не па найму, што абкладаюцца прыбытковым падаткам, даход якіх не перавышае 1.000 руб. у год, а таксама члены іх сем‘яў, якія знаходзяцца на ўтрыманьні пералічаных у гэтым артыкуле асоб — пры паездках заграніцу для лячэньня па заключэньню камісій пры краявых, абласных і акруговых здраўаддзелах;

б) эмігранты, якія па сацыяльнаму становішчу могуць быць аднесены да п. „а“ арт. 7, зарэгістраваныя ў Саўгандльфлёце, пры паездцы на сталае пражываньне ў краіны эміграцыі для свайго гаспадарчага ўпарадкаваньня ў гэтых краінах, г. зн. для працы, для вядзеньня сваёй уласнай гаспадаркі, альбо для пражываньня на ўтрыманьні іншых асоб, якія пражываюць заграніцай.

Увага. Тыя эмігранты, якія ня могуць быць аднесены да п. „а“ арт. 7, уплачваюць збор за замежны пашпарт па IV катэгорыі, г. зн. у разьмеры 300 руб.

Арт. 4. Калі асоба, якая хадайнічае аб дапасаваньні ільготы паводле п. „а“ арт. 3 і п. п. „а“, „л“ і „м“ арт. 2 інструкцыі (для лячэньня), пражывае разам (вядзе агульную гаспадарку) з бліжэйшымі

сваякамі (муж, жонка, бацька, матка, дзеці), заработак якіх вышэй, чым заработак выяжджаючай асобы, адміністрацыйныя аддзелы маюць права вызначаць разьмер збору, выходзячы з вышэйшага акладу, атрымліваемага членамі данай сям'і.

Арт. 5. Калі асоба, якая едзе для лячэньня (п. „а“ арт. 3 і п. п. „а“, „л“ і „м“ арт. 2) ня можа ехаць без правадніка, дык апошні аплачвае збор за замежны пашпарт у залежнасьці ад свайго заработку.

Па погляду органаў НКУС саюзных рэспублік да яго (правадніка) можа быць дапасавана ільгота як да выяжджаючага для лячэньня.

Арт. 6. Асобы, аднесеныя па свайму матарыяльнаму становішчу да п. п. „а“, „л“, і „м“ арт. 2 інструкцыі пры паездках заграніцу для пабачаньня з сваякамі, плацяць за замежны пашпарт збор па ІІ-й катэгорыі, г. зн. у разьмеры 100 руб.

Арт. 7. Да ІІІ-й катэгорыі (па стаўцы 200 руб.) адносяцца наступныя асобы:

а) рабочыя, служачыя і сяляне, непазбаўленыя выбарных правоў саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія пражываюць на сродкі ад асабістай вытворчай, агульна-карыснай працы не па найму, а таксама знаходзячыяся на ўтрыманьні пералічаных у гэтым артыкуле асоб, члены іх сем'яў, якія ня могуць быць аднесены да асоб першых дзьвёх катэгорый, памянёных у арт. 2 і 3 гэтай інструкцыі;

б) асобы, якія камандыруюцца па агульна-грамадзянскіх замежных пашпартох дзяржаўнымі і каперацыйнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, а таксама ўсякага роду грамадзкімі арганізацыямі пры паездках, непрадугледжаных п. п. „б“, „в“, „г“, „д“ і „е“ арт. 2 гэтай інструкцыі.

> Увага. Асобы, якія камандыруюцца мяшанымі акцыйнымі таварыствамі, могуць быць у адносінах аплаты агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў аднесены да ІІІ-й катэгорыі толькі ў тым выпадку, калі гэтыя таварыствы прыроўнены да дзяржаўных прадпрыемстваў на падставе канцэсійных дагавораў альбо спэцыяльных законаў.

Арт. 8. Да IV-й катэгорыі (па стаўцы 300 руб.) адносяцца наступныя асобы:

а) што камандыруюцца ўсякага роду іншымі прадпрыемствамі і арганізацыямі, не памянёнымі ў п. „б“ арт. 7 інструкцыі;

б) усе іншыя асобы, якія ня могуць быць аднесены да паказаных вышэй катэгорый, а таксама асобы, якія знаходзяцца на іх утрыманьні.

> Увага. Для членаў сем'яў супрацоўнікаў акцыйных таварыстваў і іншых арганізацый, якія аплачваюць збор за агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты для сваіх супрацоўнікаў па IV-й катэгорыі (300 рубл.) пункт „ж“ арт. 2 гэтай інструкцыі не дапасоўваецца. Гэтыя асобы павінны аплачваць збор у суме 200 руб.

Арт. 9. У тым выпадку, калі ў выдаваемы агульна-грамадзянскі замежны пашпарт уносяцца асобы, не дасягнуўшыя 16-ці гадовага ўзросту, збор вылічваецца толькі з асобы, на якую пашпарт выпісваецца.

Арт. 10. За ўнясеньне ў выдадзены агульна-грамадзянскі замежны пашпарт якіх-небудзь зьмен, як-та: уключэньне асобы, не дасягнуўшай 16-ці гадовага ўзросту, альбо выключэньне гэткай, зьмены паграніч-

нага пункту і інш., спаганяецца з асоб аднесеных да I, II і III катэгорый—10 рубл. і з асоб, аднесеных да IV катэгорыі—30 рубл. За ўнясеньне якіх-небудзь зьмен у пашпарт, выдадзены бясплатна, збор не спаганяецца.

Арт. 11. За выдачу дазволаў (прапускоў) на права шматразовага пераходу альбо пераезду дзяржаўнай мяжы жыхарам пагранічнай паласы тэрмінам да аднаго месяца спагняецца: з асоб, аднесеных да I, II і III катэгорый—50 к., а з асоб, аднесеных да IV катэгорыі—2 р.

Арт. 12. За выдачу дазволаў (прапускоў) на права шматразовага пераходу альбо пераезду дзяржаўнай мяжы жыхарам пагранічнай паласы тэрмінам да аднаго году спаганяецца з асоб, аднесеных да I, II і III катэгорый—2 руб. 50 к., а з асоб, аднесеных да IV катэгорыі—15 р.

Увага. У разьмеры, прадугледжаным гэтым артыкулам, аплачваюцца таксама візы на шматразовы пераезд граніцы, што накладаюцца на пасьведчаньнях супрацоўнікаў дзяржустаноў, абслугоўваючых прымежныя зносіны (чыгуначных агэнтаў, правадыроў вагонаў, пісьманосцаў па прыёмцы і здачы замежнай пошты, агэнтаў мытніц, рабочых па сплаву лесу і г. д.), а таксама візы на шматразовы пераезд граніцы, што накладаюцца на агульна-грамадзянскіх замежных пашпартох асоб, якія камандыруюцца дзяржаўнымі ўстановамі і дзяржпрадпрыемствамі па справах службы за-граніцу.

Арт. 13. За візы, якія накладаюцца на дакумэнтах савецкіх грамадзян-жыхароў Заходняга Кітаю (правінцыя Сан-Дзян) пры звароце да месца пражываньня з кароткачасовай паездкі ў СССР—спаганяецца 5 руб., калі на дакумэнце, па якому даная асоба прыехала ў СССР, маецца адзнака консула аб тым, што гэтая асоба мае права на ільготу. Пры адсутнасьці адзнакі збор спаганяецца ў суме 50 руб.

Арт. 14. Пры выдачы прапускоў на пераход дзяржаўнай граніцы жыхаром 25-кілёмэтравай пагранічнай паласы ТССР і Азэрб. ССР, прылягаючай да Пэрсіі, збор спаганяецца ў наступным разьмеры: за месячны пропуск з асоб, аднесеных да I, II і III катэгорый—50 кап., з асоб, аднесеных да IV катэгорыі—2 руб., за гадавы пропуск з асоб, аднесеных да I, II і III катэгорый—2 руб. 50 кап. і з асоб, аднесеных да IV катэгорыі—15 руб.

Арт. 15. За яўку (візу) чужаземнага пашпарту спаганяецца:

а) на выезд з СССР . . . . 5 руб.
б) на выезд з СССР і зваротны ўезд . 10 руб.
в) на шматразовы пераезд граніцы . 30 руб.

Увага. 1. За адтэрмінаваньне візы на выезд заграніцу збор спаганяецца ў тым-жа разьмеры, як і за візу.

Увага. 2. З асоб, якія заяўляюць сябе чужаземцамі, але не прадстаўляюць належных нацыянальных дакумэнтаў, плата за візу на выезд з СССР спаганяецца ў разьмеры, прадугледжаным п. „а“ гэтага артыкулу.

Арт. 16. За выдачу альбо далейшае адтэрмінаваньне чужаземцамі віду на пражываньне ў межах СССР незалежна ад тэрміну, а таксама за накладаньне рэгістрацыйных адзнак на нацыянальных пашпартох чужаземных грамадзян спаганяецца 5 руб.

Увага. Незаможныя чужаземцы, маемасная незабясьпечанасьць якіх вызначаецца выдаваемымі народнымі камісарыятамі

ўнутраных спраў саюзных рэспублік адпаведнымі правіламі, аслабаняюцца ад прадугледжанага гэтым артыкулам збору.

Арт. 17. З грамадзян тых краін, у адносіне да якіх Народным Камісарыятам Замежных Спраў па згодзе з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР, вызначаюцца на началах ўзаемнасьці іншыя стаўкі за накладаньне віз на пашпартох і за выдачу відаў на пражываньне, зборы, прадугледжаныя арт. арт. 12, 13, 14, 15 і 16 гэтай інструкцыі, спаганяюцца ў разьмеры, устаноўленым асобнымі распараджэньнямі НКЗС і НКФ СССР.

Арт. 18. Ад збораў за выдачу агульнаграмадзянскіх пашпартоў і накладаньне віз аслабаняюцца наступныя асобы:

а) вучні, якія ўтрымоўваюцца на дзяржаўнай стыпэндыі — пры паездках заграніцу для лячэньня альбо для пражываньня на ўтрыманьні сваякоў у час канікул;

б) асобы, якія камандыруюцца органамі НКШЗ для працы ва ўстановах Усходня-Кітайскай чыгункі;

в) савецкія грамадзяне, якія зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня заграніцу пасьля сканчэньня службы ў РСЧА і Флёце, альбо на час свайго водпуску;

г) асобы, якія прыбываюць з заграніцы па прызыву на вайсковую службу і зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня ў выпадку адтэрмінаваньня альбо вызваленьня ад вайсковай службы;

д) бяспрытульныя падлеткі, якія накіроўваюцца да сваякоў, пражываючых заграніцай (якія эмігрыруюць).

е) палітычныя эмігранты на падставе даведак ЦК МОПР'у і яго мясцовых органаў;

ж) савецкія грамадзяне, якія працуюць ва ўстановах і арганізацыях СССР заграніцай, незалежна ад арганізацыйнай формы апошніх (гандл. прадст., банкі, акцыянэрныя таварыствы як дзяржаўныя, так і мяшаныя), прыбываючыя з заграніцы для правядзеньня водпуску ў СССР, пры звароце назад да месца службы;

з) члены сем'яў асоб, паказаных у п. „ж“ гэтага артыкулу, якія прыяжджаюць разам з імі.

Арт. 19. Прадугледжаныя гэтай інструкцыяй зборы ўносяцца ў касы адміністрацыйных аддзелаў адпаведных выканкомаў, а квіток аб уносе належных плацяжоў прыкладаецца да адпаведнай заявы (аб выдачы агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту, дазволу, візы і г. д.).

Арт. 20. Пры прыёме заяў аб выдачы прадугледжаных у гэтай інструкцыі дакумэнтаў адміністрацыйныя аддзелы абавязаны да вырашэньня пытаньня аб выдачы прасімых дакумэнтаў, праверыць на падставе прыкладзеных да заявы даных правільнасьць унясеньня збораў.

У выпадку, калі выяўлена, што збор унесены ў меншым разьмеры, чым належыць заплаціць, а таксама ў выпадку адмовы ў дапасаваньні ільготы, адміністрацыйныя аддзелы прапануюць заяўніку даўнесьці нехапаючую суму, да якога часу паданая заява застаецца бяз руху.

Пры ўплаце збору ў большым разьмеры, чым належала, лішкавая сума падлягае звароту альбо заліку ў іншыя плацяжы.

Арт. 21. Пры выдачы агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў, дазволаў, віз і відаў на пражываньне для чужаземцаў звыш збораў, якія спаганяюцца пры падачы заяў аб выдачы паказаных дакумэнтаў,

уплачваецца дадаткова 10% з сумы ўнесеных збораў ў прыбытак таварыства Чырвонага Крыжу або Чырвонага Паўмесяца адпаведнай саюзнай рэспубліці па месцу ўплаты збораў.

Арт. 22. Спагнаныя адміністрацыйнымі аддзеламі зборы падлягаюць безадкладнай здачы ва ўстановы Дзяржбанку на дэпазытны рахунак адмаддзелаў. Унесеныя сумы збораў за выданыя пашпарты і іншыя дакумэнты, прадугледжаныя гэтай інструкцыяй, а таксама сумы, якія ўтрыманы ў парадку першай часткі арт. арт. 24 і 27 інструкцыі пералічваюцца самімі ўстановамі Дзяржбанку 1 і 15 дня наступнага за днём здачы месяца з рахунку дэпазытаў у прыбытак казны па § 21 арт. 2 прыбытковага каштарысу НКУС адпаведнай саюзнай рэспублікі.

Спагнаныя адміністрацыйнымі аддзеламі сумы ў парадку арт. 21 інструкцыі ўносяцца ў крэдытныя ўстановы ў тэрміны, якія ўстанаўляюцца цэнтральнымі камітэтамі таварыстваў Чырвонага Крыжу або Чырвонага Паўмесяца саюзных рэспублік, па ўзгадненьні з НКУС гэтых рэспублік, для залічэньня на бягучы рахунак адпаведнага цэнтральнага камітэту.

Арт. 23. 25% сумы збораў, спагнаных за выдачу агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў, дазволаў на выезд з Саюзу ССР і відаў на пражываньне для чужаземцаў, паводле арт. 2 пастановы ЦВК і СНК СССР за 8/VIII—1928 г. аб дапаўненьні арт. 24 палажэньня аб мясцовых фінансах, п. „о", (З. З. СССР 1928 г., № 52, арт. 450), адлічваецца прыняўшымі гэты збор установамі Дзяржбанку (арт. 22) і залічваецца на бягучы рахунак адпаведных мясцовых бюджэтаў парадкам, устаноўленым касавымі правіламі.

Арт. 24. У выпадку адмовы ў выдачы агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту спагнаныя зборы зварочваюцца з затрыманьнем 5%

У выпадку адмовы ў выдачы іншых прадугледжаных інструкцыяй дакумэнтаў, унесеныя зборы падлягаюць звароту поўнасьцю або залічваюцца ў наступныя выплаты (напрыклад, пры адмове чужаземцу ў выдачы віду на пражываньне — у залік выплаты за налажэньне візы на выезд з СССР).

Арт. 25. Ільготы для асоб, якія выяжджаюць за граніцу па п.п. „а", „к", „л" і „м" арт. 2, п. „а" арт. 3, і па арт. 6 даюцца па погляду НКУС саюзных рэспублік, але ня больш аднаго разу ў тры гады; у адносінах вучняў, якія знаходзяцца на дзяржаўнай стыпэндыі (п. „а" арт. 18) ільготы могуць па погляду НКУС саюзных рэспублік давацца ня больш аднаго разу ў год.

Ільготы-ж асобам, якія эмігрыруюць у краіны іміграцыі (п. „б" арт. 3), у выпадку звароту іх у СССР і пры выездзе іх зноў заграніцу — не даюцца.

Ільготы асобам, якія выяжджаюць заграніцу па месцу сталай службы асоб, на ўтрыманьні якіх яны знаходзяцца (п. „ж" арт. 2), даюцца па погляду НКУС саюзных рэспублік незалежна ад часу апошняй паездкі заяўніка заграніцу.

Арт. 26. У выпадку адмовы адміністрацыйных аддзелаў у дачы ільгот, асобы, у адносінах якіх ільготы могуць быць дапушчаны паводле гэтай інструкцыі, маюць права ў месячны тэрмін з дня аб'явы аб адмове, аскардзіць адмову ў НКУС саюзнай рэспублікі. Скаргі падаюцца праз адміністрацыйны аддзел, які адмовіў у дачы ільготы.

Рашэньне НКУС лічыцца канчатковым і далейшаму аскарджаньню не падлягае.

Арт. 27. Пры нескарыстаньні замежнага пашпарту выплачаны за яго збор можа быць зьвернуты па хадайніцтву платніка з утрыманьнем 25%.

У тых выпадках, калі адмова ад атрыманьня пашпарту абумоўлена затрыманьнем адмаддзелам выдачы пашпарту на тэрмін больш установленага для выдачы пашпарту, г. зн. для асоб стала пражываючых у данай мясцовасьці, пры затрыманьні выдачы дазволу на выезд больш чым на два тыдні і для часова пражываючых больш чым на паўтара месяца, выплачаныя зборы могуць быць зьвернуты з затрыманьнем 5%.

Увага. У тым выпадку, калі асоба, заявіўшая аб жаданьні выехаць заграніцу і ўнёсшая ўстаноўленыя зборы, пасьля падачы заявы адмовіцца ад атрыманьня прадугледжаных гэтым артыкулам дакумэнтаў, выплачаныя платнікам сумы могуць быць зьвернуты па яго хадайніцтву з затрыманьнем 25%.

Арт. 28. Сумы збораў, якія на падставе арт. арт. 20, 21 і 27 інструкцыі падлягаюць звароту, выдаюцца з дэпазытнага рахунку адпаведнага адміністрацыйнага аддзелу.

Сумы набавак, якія ўнесены ў прыбытак Таварыства Чырвонага Крыжу або Чырвонага Паўмесяца звароту не падлягаюць.

Арт. 29. Дакумэнты, што выдаюцца ў парадку гэтай інструкцыі— не падлягаюць ніякаму іншаму абкладаньню, звыш памянёных збораў і набаўкі да іх у даход таварыстваў Чырвонага Крыжу альбо Чырвонага Паўмесяца. Таксама не падлягаюць ніякаму абкладаньню заявы як аб выдачы азначаных дакумэнтаў, так і заявы, якія падаюцца ў сувязі з выдачай гэтых дакумэнтаў.

Увага. За выдаваемыя грамадзянам блянкі заяў, відаў на пражываньне, анкет і інш. адміністрацыйныя аддзелы могуць спаганяць плату ў разьмеры фактычнага (загатоўчага) кошту азначаных блянкаў. Кошт блянкаў агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў уключаюцца ў суму збораў, устаноўленых за выдачу іх і асобна не спаганяецца. Пры выдачы агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў грамадзянам, вызваленым ад уплаты збораў, за блянк пашпарту спаганяецца яго фактычны кошт.

Арт. 30. Пералік дакумэнтаў, якія павінны прадстаўляцца ў адміністрацыйныя аддзелы на прадмет вызваленьня ад збораў альбо атрыманьня ільготы, выдаюцца НКУС саюзных рэспублік.

Арт. 31. Асобы, якія прадставілі з мэтай атрыманьня ільгот няправільныя весткі, падлягаюць прыцягненьню да крымінальнай адказнасьці.

Арт. 32. Правілы па падліку збораў, што спаганяюцца адміністрацыйнымі аддзеламі, паводле гэтай інструкцыі, а таксама па кантролю іх выдаюцца Н. К. Фінансаў саюзных рэспублік па ўзгодненьні з НКУС саюзных рэспублік. Арыгінал падпісаў—Пам. Нач. Кіраўніцтва Дзяржпадаткамі Ліўшыц. З арыгіналам згодна: Загадчык замежнай часткі НКУС БССР І. Губскі.

„ЗАЦЬВЯРДЖАЕЦЦА"
Нам Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР — Я. КРОЛЬ.
Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР — Л. БУНІН.

Дадатак да арт 30 Інструкцыі НКФ СССР за 5/VI-1929 г. № 15.

# ПЕРАЛІК

## дакумэнтаў, якія павінны прадстаўляцца грамадзянамі на прадмет вызваленьня ад збораў за замежныя пашпарты ці атрыманьня ільгот.

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэта паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| | | **Бясплатна.** | |
| 1 | Вучні, якія атрымліваюць дзяржаўную стыпэндыю (п. „а" арт. 18 Інстр.) | Пры паездцы заграніцу для лячэньня | 1. Даведка навучальнай установы аб тым што даная асоба лічыцца стыпэндыятам.<br>2. Даведка акруговай лекавай камісіі аб неабходнасьці лячэньня заграніцай. |
| 2 | Таксама | Пры паездцы заграніцу на канікулы | 1. Даведка, паказаная ў п. 1 § 1.<br>2. Даведка, засьведчаная Паўнамоцным Прадстаўніцтвам або консульствам СССР заграніцей, аб тым, што ў заяўніка пражываюць заграніцай сваякі, якія запрашаюць яго на канікулы.<br>3. Даведка навучальнай установы аб тым, што з боку яе ня маецца перашкод да выезду на канікулы заграніцу. |
| 3 | Асобы, якія камандыруюцца органамі НКШЗ для работы ва ўстановах Усходня-Кітайскай чыгункі (п. „б" арт. 18 Інст.). | Камандыроўка | 1. Копія камандыровачнага дакумэнту, выдадзенага НКШЗ за подпісам наркома, або яго намесьніка, а на мясцох — кіраўніка ўстановы, які ўпаўнаважаны на гэта. |
| 4 | Савецкія грамадзяне, якія зварочваюцца да месца сталага пражываньня заграніцу пасьля сканчэньня службы ў РСЧА і Флёце або на час свайго водпуску (п. „в" арт. 18 Інстр. | Зварот на месца сталага пражываньня заграніцу | 1. Дакумэнты, якія сьведчаць аб сталым пражываньні заграніцай да прызыву на вайсковую службу.<br>2. Даведка або паведамленьне Штабу Беларускай Вайсковай Акругі аб тым, што з яго боку няма пярэчаньняў да выезду заграніцу. |
| 5 | Асобы, якія прыбылі з заграніцы па прызыву на вайсковую службу і зварочваюцца да месца свайго сталага пражываньня ў выпадку адтэрмінаваньня або вызваленьня ад вайсковай службы (п. „г" арт. 18 Інстр.) | Зварот на месца сталага пражываньня заграніцу | 1. Даведка акруговага вайсковага камісарыяту аб вызваленьні данай асобы ад вайсковай службы або аб тым, што ёй дадзена адтэрмінаваньне.<br>2. Даведка, паказаная ў п. 1 § 4. |
| 6 | Бяспрытульныя падлеткі, якія накіроўваюцца да сваякоў заграніцу (п. „д" арт. 18 Інстр.) | Эміграцыя. | Хадайніцтва акруговай камісіі па барацьбе з бяспрытульнасьцю або гуманітарных установаў Чырвонага Крыжу БССР або Саюзу ССР, а таксама аддзяленьняў Міжнароднага Крыжу ў СССР. Хадайніцтвы апошняга павінны накіроўвацца праз цэнтральны орган Чырвонага Крыжу Саюзу ССР або БССР. |

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэта паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| 7 | Палітычныя эмігранты (п. „е“ арт. 18 Інстр.) | Эміграцыя | Даведка ЦК МОПР'у БССР або яго акруговых аддзяленьняў, аб тым, што даная асоба зьяўляецца палітэмігрантам. |
| 8 | Савецкія грамадзяне, якія працуюць у арганізацыях СССР заграніцай незалежна ад арганізацыйнай формы апошніх (гандлёв. прадстаўніцтвы, банкі, акцыянэрныя т-вы, як дзяржаўныя, так і мяшаныя), прыбываючыя з заграніцы для правядзеньня водпуску ў СССР, пры звароце назад заграніцу на месца службы (п. „ж“ арт. 18 Інстр.). | Пры звароце да месца службы супрацоўнікаў устаноў СССР заграніцай. | Хадайніцтва адпаведнага наркамату або ўпаўнаважанага на гэта органу аб дачы ільготы з паказаньнем аб тым, што даны гр-н працуе ва ўстанове СССР заграніцай і прыбыў у СССР для скарыстаньня водпуску. |
| 9 | Члены сем'яў асоб, паказаных у папярэднім параграфе, пры выезьдзе сумесна з імі (п. „з“ арт. 18 інстр.). | Пры звароце да месца сталага пражываньня сем'яў супрацоўнікаў устаноў СССР заграніцай. | Даведка адпаведнага наркамату або ўпаўнаважанага на гэта органу аб тым, што члены сям'і прыбылі з асобамі, паказанымі ў § 8. |
| | **1-я катэгорыя—50 р.** | | |
| 10 | Рабочыя і служачыя, заработак якіх за шэсьць папярэдніх месяцаў да падачы заявы ў сярэднім не перавышаў 100 р. у м-ц. (п. „а“ арт. 2 Інстр.). | Пры паездцы заграніцу для лячэньня. | 1. Даведка адпаведнай ўстановы аб тым, што заработак рабочага або служачага за папярэднія шэсьць месяцаў да падачы заявы складаў ня больш 100 р.<br>2. Даведка акруговай лекавай камісіі пры акрздраве аб неабходнасьці лячэньня заграніцай. |
| 11 | Сяляне, якія маюць даход ад сваёй гаспадаркі ў межах неабкладанага с.-г. падаткам мінімуму (п. „а“ арт. 2 Інстр.). | Таксама. | 1. Даведка райвыканкому аб тым, што выяжджаючыя сяляне маюць даход ад сваёй гаспадаркі ў межах мінімуму, які не абкладаецца адзіным с.-г. падаткам, а таксама, што яны ў бягучым акладным годзе (а калі ў бягучым годзе яшчэ ня было абкладаньня, дык у мінулым годзе) не абкладаліся падаходным падаткам.<br>2. Даведка, паказаная ў п. 2 § 10. |
| 12 | Саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія пражываюць на сродкі ад уласнай вытворчай працы не па найму і якія ня плацяць падаходнага падатку (п. „а“ арт. 2 Інстр.). | Таксама. | 1. Даведка інспэктара па простых падатках аб тым, што ў бягучым акладным годзе (а калі ў бягучым акладным годзе яшчэ ня было абкладаньня, дык у мінулым годзе) даная асоба не абкладалася падаходным падаткам.<br>2. Даведка адпаведнай ўстановы аб тым, што даная асоба не пазбаўлена выбарчых правоў.<br>3. Даведка, паказаная ў п. 2 § 10. |

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэта паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| 13 | Члены сем'яў, паказаных у §§ 10, 11 і 12 (п. „а" арт. 2 Інстр.) | Для лячэньня. | 1. Адна з даведак, паказаных у першых пунктах §§ 10, 11 і 12 аб асобах, на ўтрыманьні якіх члены сям'і знаходзяцца.<br>2. Даведка ад дамакіраўніцтва, ЖАКТ'у, сельсавету або органу міліцыі аб тым, што член сям'і зьяўляецца ўтрыманцам данай асобы і ня мае самастойных даходаў.<br>3. Даведка, паказаная ў п. 2 § 10. |
| 14 | Навуковыя працаўнікі, якія камандыруюцца заграніцу вучонымі арганізацыямі па хадайніцтвах адпаведных ведамстваў (п. „б" арт. 2 Інстр.) | Камандыроўка. | 1. Хадайніцтва адпаведнага наркамату аб дачы ільгот з паказаньнем, на які час даецца камандыроўка і што камандыроўка мае навуковы характар.<br>2. Копія камандыровачнага дакумэнту. |
| 15 | Вучні, якія камандыруюцца заграніцу вучэбнымі ўстановамі для практыкі і ўдасканаленьня (п. „в" арт. 2 Інстр.) | Таксама. | 1. Хадайніцтва адпаведнага ведамства, пад ведамам якога знаходзіцца даная вучэбная ўстанова, аб дачы ільготы па аплаце збору.<br>2. Копія камандыровачнага дакумэнту. |
| 16 | Асобы, якія камандыруюцца дзяржаўнымі ўстановамі заграніцу на зьезды, канфэрэнцыі і г. д., а таксама члены мастацкіх, тэхнічных, прафэсійных, гуманітарных і іншых падобных арганізацый, дэлегіруемых для тэй-жа мэты гэтымі арганізацыямі (п. „г" арт. 2 Інстр.) | Камандыроўка. | 1. Хадайніцтва наркамату або адпаведнага цэнтральнага оргну (ЦСПСБ, Асоавіахім і інш.) аб дачы ільгот па аплаце збору.<br>2. Копія камандыровачнага дакумэнту. |
| 17 | Працаўнікі ўсіх відаў мастацтва, накіроўваемыя на часовую працу заграніцу праз НК Працы СССР (Цэнтрапасрэдрабіс) па узгадненьню з НК Асьветы БССР (п. „д" арт. 2 Інстр.) | Таксама. | Хадайніцтва Цэнтрапасрэдрабісу НК Працы СССР аб дачы ільгот па аплаце збораў. |
| 18 | Члены спартыўных арганізацый, што камандыруюцца БСФК заграніцу для ўдзелу ў спартыўных гульнях п. „е" арт. 2 Інстр. | Таксама. | Копія камандыровачнага дакумэнту ад ВСФК. |
| 19 | Утрыманцы — члены сем'яў асоб, якія знаходзяцца на сталай службе ва ўстановах СССР заграніцай пры паездцы заграніцу да месца службы паказаных асоб (п. „ ж" арт. 2 Інстр.) | Да месца службы сталых супрацоўнікаў устаноў СССР заграніцай. | Хадайніцтва адпаведнага наркамату або ўпаўнаважанага ім органу, у якім павінна быць паказана аб тым, што асоба, да якой выяжджаюць утрыманцы членаў яго сям'і, сапраўды знаходзяцца на яго ўтрыманьні. |

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэта паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| 20 | Рабочыя і служачыя, якія жывуць у межах паласы У.-К. чыгункі і члены іх сем'яў пры зварочваньні з часовай паездкі ў СССР на тэрыторыю У.-К. чыгункі (п. „з" арт. 2 Інстр.) | На месца сталага жыхарства | Адзнака консула СССР на дакумэнтах, па якіх рабочыя і служачыя выехалі ў СССР, аб тым, што паездка іх зьяўляецца ўважлівай. |
| 21 | Савецкія грамадзяне, якія жывуць заграніцай і едуць транзытам праз СССР (п. „і" арт. 2 Інстр.) | Паездка транзытам праз СССР. | Адпаведная адзнака консула СССР. |
| 22 | Савецкія грамадзяне — члены сем'яў чужаземцаў пры паездцы заграніцу на сталае пражываньне (п. „к" арт. 2 Інстр.) | Паездка на сталае пражываньне. | 1. Даведка акрфінаддзелу або вучастковага падатковага інспэктара аб тым, што члены сям'і чужаземца вызвалены ад падаходнага падатку або аплачваюць яго паводле росьпісу № 1 або 2 палаж. па падаходным падатку.<br>2. Даведка органаў ЗАГС, або натарыяльная выпіска з дакумэнту аб тым, што даная асоба зьяўляецца сваяком чужаземца. |
| 23 | Атрымліваючыя дзяржаўную пэнсію ў парадку сацыяльнае забясьпекі або ў парадку сацыяльнага страхаваньня (у тым ліку і асобы, атрымліваючыя пэрсанальную пэнсію) (п. „л" арт. 2 Інстр. | Для лячэньня | 1. Даведка ад органаў сацыяльнай забясьпекі або іншых адпаведных органаў (асьветы, аховы здароўя) аб тым, што даны грамадзянін атрымлівае пэнсію.<br>2. Копія пастановы акруговай лекавай камісіі пры акрздраве аб неабходнасьці лячэньня заграніцай. |
| 24 | Таксама. | Эміграцыя. | 1. Даведка ад органаў сацыяльнай забясьпекі або іншых адпаведных органаў (асьветы, аховы здароўя) аб тым, што даная асоба атрымлівае пэнсію і захоўваецца ці не пэнсія пры выезьдзе заграніцу.<br>2. Пры выезьдзе ў заакіянскія краіны —рэгістрацыйная картка Саўгандльфлёту або Рускапа. |
| 25 | Беспрацоўныя, якія атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю або маюць права на атрыманьне дапамогі (п. „м" арт. 2 Інстр.) | Для лячэньня | 1. Даведка страхкасы аб тым, што заяўнік атрымлівае дапамогу па беспрацоўю, а калі не, дык што ён мае права на атрыманьне.<br>2. Копія пастановы акруговай лекавай камісіі пры акрздраве аб неабходнасьці лячэньня заграніцай. |
| 26 | Таксама. | Эміграцыя | Дакумэнты, паказаныя ў п. 1 § 25 і ў п. 2 § 24. |
| 27 | Члены сем'яў асоб, паказаных у §§ 24 і 25 пры выезьдзе заграніцу разам з імі або да іх, калі апошнія выехалі заграніцу раней. | Эміграцыя | 1. Даведка ад дамакіраўніцтва, ЖАКТ'у, сельсавету або міліцыі аб тым, што член сям'і знаходзіцца на ўтрыманьні данай асобы і ня мае самастойных даходаў.<br>2. Адна з даведак, паказаных у першых пунктах §§ 24 і 25. |

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэта паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| | (Увага да п. „л“ і „м“ арт. 2 інстр.) | | 3. Пры выезьдзе ў заакіянскія краіны — рэгістрацыйная картка Саўгандльфлёту аб Рускапа. |
| 28 | Таксама | Для лячэньня | 1. Дакумэнт, паказаны ў п. 1 § 27.<br>2. Адна з даведак, паказаных у п. п. першых §§ 24 і 25.<br>3. Даведка, паказаная ў п. 2 § 25. |
| | **II-я катэгорыя — 100 р.** | | |
| 29 | Рабочыя і служачыя, месячны заработак якіх па ўсіх пасадах разам не перавышае 250 р. у м-ц (арт. 3 Інстр.) | Таксама | 1. Даведка ад адпаведных устаноў або прадпрыемстваў аб тым, што даная асоба зарабляе на ўсіх пасадах разам ня больш 250 р. у месяц.<br>2. Даведка, паказаная ў п. 2 § 25. |
| 30 | Сяляне, якія маюць даход ад сваёй гаспадаркі ў межах пяціразовага неабкладанага адзіным с.-г. падаткам мінімуму (арт. 3 Інстр.) | Таксама | 1. Даведка райвыканкому аб тым, што выяжджаючая асоба абкладзена ў бягучым акладным годзе с.-г. падаткам па даходу, падлічанаму па сярэдніх нормах без ужываньня процантных набавак, а таксама, што селянін у бягучым акладным годзе не абкладаўся падаходным падаткам, або абкладаўся па росьпісу № 1 або 2 па даходу — у першым выпадку ня звыш 3000 р. і ў другім — ня звыш 1000 р. у год.<br>2. Даведка, паказаная ў п. 2 § 25. |
| 31 | Саматужнікі, рамесьнікі і іншыя асобы, якія жывуць на сродкі ад асабістай вытворчай працы не па найму, якія абкладаюцца падаходным падаткам, даход якіх не перавышае 1000 р. (арт. 3 Інстр.) | Таксама | 1. Даведка інспэктара па простых падатках аб тым, што грамадзянін у бягучым годзе (а калі ў бягучым годзе абкладаньня яшчэ ня было, дык у мінулым годзе) абкладаўся падаходным падаткам па росьпісу 2 палажэньня аб падаходным падатку, але з даходу ня больш 1000 р.<br>2. Даведка, паказаная ў п. 2 § 25. |
| 32 | Члены сем'яў асоб, пералічаных у §§ 29, 30 і 31 (арт. 3 Інстр.) | Таксама | 1. Адна з даведак, паказаных у пунктах перш..х §§ 29, 30 і 31 на асоб, на ўтрыманьні якіх член сям'і знаходзіцца.<br>2. Даведка дамакіраўніцтва, ЖАКТ'у, сельсавету або міліцыі аб тым, што член сям'і зьяўляецца ўтрыманцам данага грамадзяніна і ня мае самастойных даходаў.<br>3. Даведка, паказаная ў п. 2 § 25. |
| 33 | Рабочыя, служачыя і сяляне, зарэгістраваныя ў Саўгандльфлёце, пры выезьдзе на сталае пражываньне ў краіны эміграцыі для свайго гаспадарчага ўпарадкаваньня ў гэтых краінах, г. зн. для работы, для вядзеньня сваёй гаспадаркі, або для пражываньня на ўтрыманьні | Эміграцыя | 1. Даведка вучастковага інспэктара па простых падатках аб тым, што выяжджаючая асоба вызвалена ад падаходнага падатку або абкладаецца па росьпісах 1 або 2 палаж. па падаходнаму падатку.<br>2. Даведка райвыканкому аб тым, што даная асоба абкладаецца с.-г. падаткам па даходу, падлічанаму па сярэдніх нормах з ужываньнем альбо без ужываньня процантных надбавак, а таксама, што ён абкладаецца |

| §§ | Сацыяльнан і налогавая катэгорыі | Мэты паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| | іншых асоб, пражываючых за граніцай (п. „б" арт. 3 Інстр.). | | падаходным падаткам па росьпісу 1 або 2 (для сялян).<br>3. Копія рэгістрацыйнай карткі Саўгандльфлёту пры выезьдзе ў заакіянскія краіны. |
| 34 | Саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія пражываюць на сродкі ад асабістай працы не па найму, зарэгістраваныя ў Саўгандльфлёце і не пазбаўленыя выбарчых правоў (п. „б" арт. 3 Інстр.). | Эміграцыя | 1. Даведкі, паказаныя ў п. п. 1 і 3 § 33.<br>2. Даведка ад апаведнай установы аб тым, што асоба не пазбаўлена выбарчых правоў. |
| 35 | Члены сем'яў асоб, паказаных у §§ 33 і 34 (п „б" арт. 2 Інстр.). | Таксама | 1. Адна з даведак па абкладаньню падаткамі, паказаных у пункце 1 або 2 § 33.<br>2. Копія рэгістрацыйнай карткі Саўгандльфлёту пры выезьдзе ў краіны эміграцыі.<br>3. Даведка, паказаная ў п. 2 § 34. |

Увага да §§ 33, 34 і 35. Тыя эмігранты, якія ня могуць быць аднесены да асоб, паказаных у § 38 гэтага пераліку, плацяць збор у суме 300 р.

| §§ | Сацыяльнан і налогавая катэгорыі | Мэты паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| 36 | Асобы, паказаныя ў §§ 10, 11, 12, 23 і 25 гэтага пераліку (арт. 6 Інстр.) | Ляпабачаньня з сваякамі | 1. Адна з даведак, паказаных у пунктах першых §§ 10, 11, 12, 23 і 25 гэтага пераліку ў залежнасьці ад сацыяльнага становішча.<br>2. Дакумэнт, засьведчаны Паўнамоцным Прадстаўніцтвам або Консульствам СССР заграніцай аб тым, што ў заяўніка пражываюць заграніцай сваякі, якія запрашаюць яго да сябе. |
| 37 | Члены сем'яў асоб, паказаных у §§ 10, 11, 12, 23 і 25 (арт. 6 Інстр.). | Таксама | 1. Адна з даведак, паказаных у пунктах першых §§ 10, 11, 12, 23 і 25 на асоб, на ўтрыманьні якіх член сям'і знаходзіцца.<br>2. Даведка дамакіраўніцтва. ЖАКТ'у, сельсавету або міліцыі аб тым, што член сям'і зьяўляецца ўтрыманцам данага гр-на і ня мае самастойных даходаў.<br>3. Дакумэнт, паказаны ў п. 2 § 36. |

III-я катэгорыя — 200 р.

| §§ | Сацыяльнан і налогавая катэгорыі | Мэты паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| 38 | Рабочыя, служачыя і сяляне, а таксама не пазбаўленыя выбарчых правоў саматужнікі, рамесьнікі і інш. асобы, якія пражываюць на сродкі ад асабістай агульна-карыснай вытворчай працы не па найму і якія ня могуць | Незалежна ад мэты выезду. | Даведка аб тым, што даная асоба не пазбаўлена выбарных правоў за выключэньнем рабочых, служачых і сялян. |

| §§ | Сацыяльная і налогавая катэгорыі | Мэты паездкі | Патрэбныя дакумэнты |
|---|---|---|---|
| | быць аднесены да першых дзьвёх катэгорый (п. „а“ арт. 7 Інстр.). | | |
| 39 | Члены сем'яў асоб, паказаных у § 38 (п. „а“ арт. 7 Інстр.). | Таксама. | Даведкі, паказаныя ў п. 2 § 37 і ў п. 1 § 38. |
| 40 | Асобы, якія камандыруюцца дзяржаўнымі і каперацыйнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, а таксама ўсякага роду грамадзянскімі арганізацыямі пры паездках не прадугледжаных §§ 14, 15, 16, 17 і 18 гэтага пераліку (п. „б“ арт. 7 Інстр.). | Камандыроўка. | Копія камандыровачнага дакумэнту. |

*Увага.* 1. Асобы, якія камандыруюцца мяшанымі акцыйнымі таварыствамі могуць быць у адносінах аплаты агульна-грамадзянскіх замежных пашпартоў аднесены да III катэгорыі толькі ў тым выпадку, калі гэтыя таварыствы прыроўнены да дзяржаўных прадпрыемстваў на падставе канцэсійных дагавораў або спэцыяльных законаў.

2. Калі асоба, якая хадайнічае аб дапасаваньні ільготы па §§ 10, 11, 12, 25, 29, 30, 31 гэтага пераліку (для лячэньня) пражывае разам (вядзе агульную гаспадарку) з бліжэйшымі сваякамі (муж, жонка, бацька, матка, дзеці), заработак якіх вышэй, чым заработак выяжджаючай асобы, дык разьмер збору вызначаецца, выходзячы з вышэйшага акладу, атрымліваемага членам данай сям'і.

3. Пад членамі сям'і або сваякамі, паказанымі ў адпаведных пунктах гэтага пераліку, належыць разумець толькі бацьку, матку, дзяцей братоў і сясьцёр.

4. Асобы рэлігійных культаў павінны быць аднесены да IV катэгорыі з уплатай збораў у суме 300 р.

Загадчык Замежнай Часткі НКУС БССР *Губскі.*

Ч. в. аб. Нач. Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР *Рэксьцін.*

---

„УЗГОДНЕНА“.
Упаўнаважаны НКЗС СССР пры Урадзе БССР
*Ульлянаў.*

24/XII-1929 г.

## 12. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### пра парадак вытрабаваньня дакумэнтаў з заграніцы і вышуку грамадзян.

Для спрашчэньня парадку вытрабаваньня дакумэнтаў з заграніцы і навядзеньня ўсялякага роду даведак, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануе кіравацца наступным:

1. Вытрабаваньне ўсялякага роду дакумэнтаў з заграніцы (па актах грамадзянскага стану, даведак аб службе, дакумэнтаў аб адукацыі і г. д.) і атрыманьне даведак праводзіцца Консульскім Аддзелам Народнага Камісарыяту па Замежных Справах (Масква, пл. Вароўскага, д. № 5/21), а таксама кіраўніцтвамі ўпаўнаважаных НКЗС пры саюзных рэспубліках і агэнцтвамі НКЗС.

Увага. Кіраўніцтвы Ўпаўнаважаных і агэнцтвы НКЗС знаходзяцца:

Па РСФСР—агэнцтвы НКЗС у гарадох Ленінградзе, Уладзівастоку, Верхняудзінску, Хабараўску, Алма-Ата і Аляксандраўску (выспа Сахалін);

Па УССР—Кіраўніцтва Ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры ўрадзе УССР у г. Харкаве і агэнцтва НКЗС у г. Адэсе;

Па ЗСФСР—Кіраўніцтва Упаўнаважанага НКЗС СССР пры Ўрадзе ЗСФСР у г. Тыфлісе і агэнцтвы НКЗС у гарадох Баку, Батуме і Эрывані;

Па БССР—Кіраўніцтва Ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры Ўрадзе БССР у г. Менску (Камуністычная вул., д. № 2);

Па Туркменскай ССР—Кіраўніцтва Ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры Ўрадзе Туркменскай ССР у г. Ашхабадзе і агэнцтвы НКЗС у гарадох Керку, Кушцы і Мерве;

Па Ўзбекскай ССР—Кіраўніцтва Ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры Урадзе Узбекскай ССР у г. Ташкенце і агэнцтвы НКЗС у г. г. Тэрмезе і Андзіжане.

2. У выпадку звароту грамадзян з заявамі аб вытрабаваньні дакумэнтаў з заграніцы, або навядзеньні даведак, адміністрацыйныя органы ня прымаюць ад іх заяў, а растлумачваюць, што заявы павінны падавацца або перасылацца непасрэдна ў Консульскі Аддзел НКЗС СССР або ў агэнцтвы і кіраўніцтвы ўпаўнаважаных НКЗС СССР пры ўрадах саюзных рэспублік па месцы пражываньня зацікаўленых асоб.

3. У заявах павінны быць паказаны наступныя весткі:

А. Для вытрабаваньня дакумэнтаў па актах грамадзянскага становішча:

1) прозьвішча, імя і імя па бацьку;

2) назва дакумэнтаў;

3) месца ўтварэньня акту—вёска, воласьць, павет, губэрня, дзяржава;

4) месца рэгістрацыі акту—мэрыя або царква—каталіцкая, праваслаўная, лютаранская, рабінат і г. д;

5) год, месяц учыненьня акту;

6) імя і імя па бацьку бацькоў;

7) дакладны адрас заяўніка;

Б. Для вышуку дакумэнтаў аб адукацыі, даведак аб службе і г. д.:

1) прозьвішча, імя і імя па бацьку асобы, на імя якой дакумэнт вытрабуецца;

2) назва дакумэнту;

3) месца службы або назва вучэбных установ; падрабязныя зьвесткі аб адукацыі або прахаджэньні службы;

4) дзе можа знаходзіцца патрабаваны дакумэнт або весткі аб прахаджэньні службы;

5) прозьвішча, імя і імя па бацьку заяўніка і дакладны адрас.

В. Для вышуку грамадзян заграніцай або быўш. ваеннапалонных:

1) прозьвішча, імя і імя па бацьку асоб, якія вышукваюцца;

2) ураджэнец якой вёскі, воласьці, павету, губэрні і ўзрост;

3) назва вайсковай часткі, у якой быў да палону;

4) апошні адрас;

5) назва дзяржавы і лягеру ваеннапалонных, месцазнаходжаньне і пад якім нумарам значыўся ў палоне;

6) адкуль былі атрыманы апошнія весткі;

7) ці былі лісты з палону і ў зацьвярджальным выпадку—прыкласьці апошнія лісты;

8) іншыя весткі, якія могуць палегчыць вышук;

9) адрас, прозьвішча, імя і імя па бацьку заяўніка.

4. Асобы, зацікаўленыя ў атрыманьні дакумэнтаў або даведак з заграніцы, абавязаны заплаціць у казначэйскую частку Дзяржбанку консульскі збор у суме 4 р. і 10% гэтай сумы на карысьць Чырвонага Крыжу, і квіток аб унясеньні збораў прыкласьці да заявы.

5. У тых выпадках, калі вытрабаваньне дакумэнтаў або атрыманьне даведак вытвараецца ў Латвіі і Польшчы, заяўнік павінен, апроч квітка аб уплаце збораў у суме 4 р. 40 к., прыкласьці да заявы 5 р. гатоўкаю (пры вытрабаваньні з Латвіі прыкладаецца па 5 р. з кожнага дакумэнту) для разьліку з Міністэрствам па Замежных Справах.

Пры вытрабаваньні дакумэнтаў з Фінляндыі дадатковы збор прыкладаецца ў суме 1 р. 50 к. з кожнага дакумэнту.

Заява, квіток і грошы павінны перасылацца каштоўным пакетам.

Увага. У выпадку адмоўнага адказу дадатковы збор зварочваецца заяўніку адначасова з паведамленьнем аб выніках заявы.

6. Ад уплаты консульскага і дадатковага збораў вызваляюцца:

а) дзяржаўныя ўстановы пры вытрабаваньні дакумэнтаў і навядзеньні даведак для службовых мэт;

б) асобы, якія знаходзяцца на сацыяльным забясьпечаньні (за выключэньнем асоб, якія атрымліваюць пэрсанальныя пэнсіі);

в) беспрацоўныя, зарэгістраваныя на біржы працы ў тых выпадках, калі атрымліваюць або маюць права на атрыманьне дапамогі;

г) вучні вучэбных устаноў, якія атрымліваюць дзяржаўныя стыпэндыі;

д) вайскоўцы радавога і малодшага начскладу РСЧА;

е) сяляне, якія вызваляюцца ад уплаты адзінага сельска-гаспадарчага падатку;

ж) рабочыя, батракі і служачыя, якія атрымліваюць зарплату менш 50 р. у месяц.

Увага. Асобы, пералічаныя ў п. п. „б“, „в“, „г“, „д“, „е“ і „ж“ павінны прыкладаць да заяў адпаведныя даведкі, якія пацьвярджаюць іх права на аслабаненьне ад консульскага збору (даведкі страхкас, канцэлярый вучэбных устаноў, вайсковых часьцей, месца працы або службы і г. д.).

7. Заявы аб вытрабаваньні дакумэнтаў і атрыманьні даведак, якія накіроўваюцца ў НКЗС і яго органы, аплаце гэрбавым зборам не падлягаюць.

8. У выпадку паступленьня заяў аб вытрабаваньні дакумэнтаў з заграніцы і навядзеньні даведак праз пошту адміністрацыйныя органы павінны перасылаць заявы ў Кіраўніцтва Упаўнаважанага НКЗС пры Урадзе БССР, аб чым паведамляюць заяўніка з растлумачэньнем, што

па ўсіх пытаньнях па гэтай справе ён павінен зьвяртацца непасрэдна да Ўпаўнаважанага НКЗС СССР пры Ўрадзе БССР.

9. Па ўсіх пытаньнях, якія ўзьнікаюць па гэтых справах, як-та: атрыманьне дадатковых вестак, вытрабаваньне збораў, паведамленьне вынікаў па справе, Народны Камісарыят па Замежных Справах і яго органы зносяцца з заяўнікам непасрэдна.

10. Вытрабаваньне дакумэнтаў с Саюзу ССР асобамі, якія пражываюць заграніцай, вытвараецца толькі праз НКЗС (Консульскі Аддзел) альбо яго органы.

11. Запытаньні асоб, якія пражываюць заграніцай, аб высылцы якіх-небудзь дакумэнтаў або навядзеньні даведак, паступіўшыя непасрэдна ў адміністрацыйныя органы, павінны заставацца без выкананьня і адказу.

12. Пры звароце ў адміністрацыйныя органы асоб, якія пражываюць у СССР, з просьбамі аб выдачы даведак і дакумэнтаў для перасылкі заграніцу па просьбе сваякоў або іншых асоб, якія пражываюць заграніцай, адміністрацыйныя органы павінны растлумачыць заяўнікам парадак вытрабаваньня дакумэнтаў і навядзеньня даведак праз консульскія ўстановы СССР за граніцай, аб чым заяўнікі павінны паведаміць зацікаўленых асоб, пражываючых заграніцай.

13. З выданьнем гэтага абежніку абежнік НКУС за 31 сьнежня 1927 г. № 226 касуецца.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

25 сьнежня 1929 г.
№ 87.

---

Узгоднена з ДПУ — адносьнік за 12/I—1930 г. № 15552 і з НКЮ БССР— адносьнік за 21/XII—1929 г. № 122.

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

**пра дапаўненьне інструкцыі НКУС БССР за 16 верасьня 1929 г. (Бюл. СНК БССР (1929 г., № 11) „Пра ўжываньне пастановы СНК БССР за 17 мая 1929 г. „Пра фатаграфічныя і іншыя здымкі на тэрыторыі БССР“.**

Народны Камісарыят Унутраных Справу БССР пастанаўляе ўнесьці ў сваю інструкцыю „Пра ўжываньне пастановы СНК БССР за 17 мая 1929 г.“ „Пра фатаграфічныя і іншыя здымкі на тэрыторыі БССР“ дадатковы п. 17, пералічыўшы п. 17 дзейнічаючай інструкцыі (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 11) у п. 18.:

„17. а) Фатографы, у тым ліку аматары, абавязаны хаваць у працягу двох гадоў усе нэгатывы здымкаў у парадку іх апрацоўкі і чарговай нумарацыі;

б) у вітрынах фатаграфій могуць вывешвацца толькі тыя здымкі, на якіх маецца дазвол Галоўліту, Акрліту, або Райліту, па належнасьці;

в) фота-гурткі пры прадпрыемствах, установах і грамадзкіх арганізацыях павінны рэгістравацца ў акруговых гарадох, за выключэньнем г. Віцебску,—у адмадзелах АВК, у г. Віцебску—у адм. частцы гарсавету, а ў іншых мясцовасьцях—у адмчастках РВК. Рэгістрацыя робіцца на падставе атрыманых пратаколаў аб арганізацыі гурткоў, сьпі-

саў членаў гурткоў і зьвестак аб фота-апаратах. Новыя члены гурткоў рэгіструюцца на падставе пратакольных пастаноў гурткоў аб залічэньні іх у гурткі, а фота-апараты—па меры іх набыцьця гуртком або паасобным яго членам;

г) асобы, што займаюцца фатаграфіяй, пры зьмене месца пражываньня, павінны зьняцца з падліку адмадзелу АВК або адмчасткі РВК, па належнасьці, дзе яны зарэгістраваны, і ўзяцца на падлік у месцы новага пражываньня;

д) усе фатографы павінны весьці сьпіс усіх здымкаў, якія робяцца імі па дазволах і хаваць дакумэнты, на падставе якіх імі выдадзены тым або іншым органам альбо службовым асобам негатывы здымкаў;

е) установы і прадпрыемствы, што гандлююць фатаграфічнымі апаратамі, павінны весьці асобныя пранумараваныя, прашнураваныя і прапячатаныя адмадзелам АВК або адмчасткай РВК, па належнасьці, кнігі, у якія запісваць прыход і расход фота-апаратаў.

Вінаватыя ў парушэньні пастановы СНК за 17 мая 1929 г. (З. З. БССР 1929 г., № 19, паст. 113) і гэтай інструкцыі прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 108-з КК БССР".

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

15 студзеня 1930 г.
№ 4.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра парадак выдачы першапачатковых выпісаў з кніг ЗАГС'у і даведак аб фактах, запісаных у гэтых кнігах.

*Усім органам запісу актаў грамадзянскага стану.*

Для ўпарадкаваньня работы органаў ЗАГС па выдачы першапачатковых выпісаў з кніг ЗАГС і даведак з гэтых кніг, Народны Камісарыят Унутраных Спраў і Народны Камісарыят Юстыцыі прапануюць усім органам ЗАГС пры выдачы імі паказаных дакумэнтаў і даведак кіравацца наступнымі правіламі:

1. Першапачатковае пасьведчаньне (выпіс) аб запісу ў кнігах ЗАГС можа быць выдана толькі адзін раз. Калі-ж такі выпіс згублены, то замест яго адпаведны орган ЗАГС, на падставе п. 4 абежніка НКУС і НКЮ за 15/X-1928 г. „Пра аднаўленьне згубленых дакумэнтаў" (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 13) выдае д у б л і к а т з захаваньнем правіл паказанага абежніка.

2. На падставе запісаў у кнігах ЗАГС могуць выдавацца даведкі зацікаўленым асобам альбо установам і грамадзкім арганізацыям.

3. Зацікаўленымі асобамі, якім могуць выдавацца даведкі (арт. 2) лічацца тыя асобы, аб якіх зроблен запіс, напрыклад, у запісу аб шлюбе—кожны з супругаў; даведкі могуць быць выдадзены таксама прадстаўнікам зацікаўленых асоб, калі яны зьяўляюцца іх прадстаўнікамі паводле закону (бацькі альбо апякуны непаўналетняга альбо душэўнахворага) або на падставе спэцыяльнай даверанасьці.

4. Паказаныя даведкі павінны выдавацца з адзнакай той мэты, для якой яны выдаюцца, напрыклад: „для паданьня ў страхкасу“.

5. Па патрабаваньні судовых і сьледчых органаў усякага роду даведкі аб запісах у кнігах ЗАГС накіроўваюцца беспасрэдна ў той орган, які патрабуе даведку, альбо выдаюцца той асобе, якой суд або сьледчы выдаў пасьведчаньне на атрыманьне даведкі.

6. Установы і грамадзкія арганізацыі (арт. 2) у сваіх патрабаваньнях павінны паказаць, для якой мэты ім патрэбна даная даведка. На выданай даведцы робіцца адзнака аб тым, якой арганізацыі або ўстанове даведка выдаецца.

Нам Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

За Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Гінзбург.*

14 студзеня 1930 г.
№ 3/2.

---

## 15. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра арганізацыю рынку каменьняў.

На падставе арт. 3 літ. „в“ п. 1 і літ „і“ Палажэньня аб Н. К. Гандлю БССР (З. З. БССР 1928 г., № 34, арт. 319) і пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 21/XII-1929 г. (пр. № 41, п. 11) Н. К. Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Для выяўленьня ўсіх загатоўшчыкаў каменьняў, якія маюцца ў БССР — запрапанаваць усім небеларусскім загатоўшчыкам каменьняў ў 10-дзённы тэрмін зарэгістравацца ў Н. К. Гандлю БССР.

Арганізацыі, якія ў гэты тэрмін зарэгістраваны ня будуць,—здымаюцца з загатовак.

2. Запрапанаваць усім беларускім арганізацыям, якія маюць дагаворы на вываз каменьняў за межы БССР, зарэгістраваць іх у 10-дзённы тэрмін у Н. К. Гандлю БССР.

3. Для ўстанаўленьня адзіных форм прыёмкі каменьняў—запрапанаваць усім загатоўшчыкам каменьняў ў БССР, даць паказаньне месцам, каб каменьні прымаліся выключна абмерам альбо вагой.

4. Забараніць усім арганізацыям, якія вядуць загатоўку каменьняў на тэрыторыі БССР прэміраваць здатчыкаў каменьняў прамтаварамі. Таксама забараніць усім загатоўчым арганізацыям практыкаваць водпуск хлебафуражу здатчыкам і возчыкам каменьняў, прычым гэта часова не распаўсюджваецца на Белдартранс, які пакуль што выкарыстоўвае атрымліваемы фонд хлебафуражу.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтае пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 202 Крым. Кодэксу БССР.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НКГ БССР *Ракаў.*

6 студзеня 1930 г.
№ 1.

---

## 16. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра зьмену пастановы свае за 3 красавіка 1928 г. № 31 „Пра гранічныя набаўкі на цэмэнт“.

На зьмену пастановы сваёй за 3 красавіка 1928 г. № 31 НКГ БССР пастанаўляе:

I. Устанавіць наступныя гранічныя надбаўкі на цэмэнт для ўсіх дзяржаўных і каперацыйных арганізацый БССР:

а) пры гуртовым продажы (з калёс) ад 100 боч. і вышэй—2% да адпускной цаны франка станцыя прызначэньня;

б) пры гуртовым продажы (з складу) ад 100 бочак і вышэй—4,5% да адпускной цаны франка станцыя прызначэньня;

в) пры паўгуртовым продажы (з складу) звыш 10-ці і да 100 боч.—6,5% да адпускной цаны франка станцыя прызначэньня;

г) пры раздробным гандлі ад 10 боч. і меньш—8,5% да адпускной цаны франка станцыя прызначэньня.

Увага: Да паказанных вышэй набавак на цэмэнт прылічваецца фактычны кошт дастаўкі.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Ракаў.*

13 студзеня 1930 г.




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Цана 40 кап.

# ДА ЎСІХ ПАДПІШЧЫКАЎ

## на ЗБОР ЗАКОНАЎ БССР і БЮЛЕТЭНЬ СНК БССР

Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР паведамляе, што з 1930 г. Збор Законаў БССР і Бюлетэнь СНК БССР будуць рассылацца падпішчыкам **не па індывідуальных адрасох з наклейкаю іх, а па картачнай сыстэме, без наклейкі індывідуальных адрасоў.**

У выпадку неатрыманьня якога-небудзь нумару Збору Законаў БССР і Бюлетэню СНК БССР належыць зьвяртацца да мясцовай паштова-тэлеграфнай установы.

Абвесткамі ў абодвых паказаных выданьнях у апошніх нумарох за 1929 г. было прапанавана раённым і акруговым выканаўчым камітэтам, народным камісарыятам і цэнтральным установам БССР даць заяўкі на паказаныя выданьні для ўсіх установ раённага, акруговага і рэспубліканскага значэньня. Калі-ж якая-небудзь установа ня будзе атрымоўваць з 1930 г. паказаных выданьняў, яна павінна праверыць, ці ўнесена яна была ў адпаведную заяўку і калі не—прасіць аб унясеньні яе ў дадатковую заяўку і накіраваньні гэтае заяўкі ў Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР—Менск, Чырвонаармейская вуліца, № 3.

**Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР**